31 кастрычніка 2014 | № 41 (410)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Што будзе з Украінай?**

стар. 11

ISSN 2218-2144





9 772218 214401 10041





# «Двойка з мінусам» па літаратуры

## На сустрэчы з пісьменнікамі Лукашэнка прадэманстраваў, што ён «не ў тэме»



Сяргей ПУЛЬША

**Не буду нагадваць усё тое, што сказаў кіраўнік Беларусі на сустрэчы з пісьменнікамі. Адзначу толькі: акрамя іншага Лукашэнка падкрэсліў, што няма цяпер цэнзуры і самацэнзуры, але, маўляў, «свабода не спарадзіла і вялікай літаратуры, а прывяла да расколу пісьменніцкай супольнасці».**

Наконт цэнзуры і самацэнзуры папулярна патлумачыў прысутны на сустрэчы старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтру Андрэй Хадановіч. Ён узгадаў складанасці, якія напаткалі выдавецтвы «Галіяфы» і «ЛогвінаЎ». У апошняга ўвогуле забралі ліцэнзію за выпуск фотаальбому «Прэс-фота Беларусь». Альбом быў прызнаны экстрэмісцкім, але, па-першае, «Логвінаў» друкаваў яго яшчэ да гэтага дзіўнага прызнання, а па-другое, які экстрэмізм можа быць у фотаздымках?

Хадановіч мог бы яшчэ ўзгадаць і паляванне на часопіс «ARCHE», і тое, што ваш улюбёны «Новы час», а значыць, і ягоны дадатак «Літаратурная Беларусь», ужо колькі год не можа дамагчыся распаўсюду праз шапікі «Белсаюздрука» і падпіску «Белпошты». А, між іншым, «Літбелка» — творчасць Саюза беларускіх пісьменнікаў.

«Напісаць я напішу — думаў пісьменнік Банеў у рамане братоў Стругацкіх «Брыдкія лебедзі», — але, чорт бяры, хто гэта надрукуе?» Асноўная праблема не ў тым, каб напісаць «Вайну і мір», а ў тым, каб гэтая «Вайна і мір» дайшла да чытача. А яна не даходзіць.

Гэта выдатна прадэманстраваў сам Аляксандр Рыгоравіч патрабаваннем пра «Вайну і мір». У нас ёсць і «Вайна і мір», і таленавітыя маладыя пісьменнікі, ужо прызнаныя ў свеце. Але яны не даходзяць да масавага чытача, як не дайшлі да кіраўніка краіны. За што і «двойка з мінусам» міністру культуры Барысу Святлову.

Пару месяцаў таму Віктар Марціновіч выдаў чарговы раман «Мова». І ў той жа дзень, калі Лукашэнка сустракаўся з пісьменнікамі, міліцыя сарвала прэзентацыю «Мовы» ў Гродне, заявіўшыся туды з праверкай пашпартоў прысутных.

Дарэчы, за сваю творчасць (раман «Сфагнум», які стаў хітом продажаў беларускай кнігі за мяжой, раман «Паранойя», перакладзены на англійскую, фінскую, нямецкую мовы і выдадзены ў ЗША, Фінляндыі і Германіі) Марціновіч атрымаў узнагароду Еўрапейскага навукова-фантастычнага таварыства. Гэта не хухры-мухры — раней гэтую прэмію атрымлівалі такія мэтры, як Гары Гарысан, Станіслаў Лем, Йен Бэнкс.

Марціновіч не адзіны. Калі ласка — Вольга Грамыка і яе іранічнае фэнтэзі. «Белорскія хронікі», цыкл раманаў пра вядзьмарку Вольху, «касмічныя эпапеі» — выдатнае лёгкае чытво. Фанаты творчасці Вольгі Грамыка называюць яе ВБП, што значыць «Вялікая Беларуская (альбо Белорская — па месцы дзеяння некаторых кніг) Пісьменніца».

Можа, «фікшн» не падабаецца? Ну, тады вазьміце «нонфікшн», напрыклад, Уладзіміра Някляева: «Лабух» альбо адносна свежанькі «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Канешне, і тут не абышлося без скандалу — прэзентацыя «Аўтамату...» была сарвана на XX Мінскім міжнародным кніжным кірмашы з-за палітычнай дзейнасці Някляева. Але, тым не менш, нават трансфармацыя «вершаплёта» ў празаіка, па-мойму, — даволі выдатны літаратурны феномен, сам па сабе варты асобнага рамана.





**Чаму сучасная беларуская літаратура цалкам невядомая Лукашэнку?**

Не падабаецца «палітык Някляеў» — звярніце ўвагу на шорт-ліст літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца. Там багата цікавых і выдатных твораў, аўтары якіх па-за палітыкай.

А калі зусім карціць сучасная «Вайна і мір», то нядаўна Святлана Алексіевіч скончыла апошнюю, пятую кнігу свайго знакамітага мастацка-дакументальнага цыклу «Галасы Утопіі» — «Час second hand (Канец чырвонага чалавека)». І была ўганараваная Прэміяй свету Саюза нямецкіх кнігагандляроў, сярод ранейшых лаўрэатаў якой вялікія людзі — ад Альберта Швейцера да Вацлава Гавэла.

Чаму сучасная беларуская літаратура цалкам невядомая Лукашэнку? Зразумела, у кіраўніка дзяржавы няшмат часу для чытання. Але зараз ёсць электронныя кнігі, куды ўлазіць цэлая бібліятэка. Вунь, нядаўна Аляксандр Рыгоравіч зганяў у Эміраты, а што ён рабіў падчас пералёту? Узяў бы нейкі PocketBook альбо Amazon Kindle, пачытаў бы ў палёце.

Справа не ў тым, што ў нас няма геніяў — яны ёсць. Справа ў тым, што гэтыя кнігі не даходзяць да чытача, як не даходзяць да Аляксандра Рыгоравіча. А гэта ўжо праблема не «цэнзуры ці самацэнзуры» творцы. Гэта і адсутнасць рынку, калі выдаўцы думаюць, не як выдаць кнігу, якая будзе размятацца, як гарачыя піражкі, а як бы потым не патрапіць за гэты твор пад санкцыі. Гэта і праблема аўтарытарнай дзяржавы, якая, імкнучыся «трымаць і не пушчаць» палітычных апанентаў, «закопвае» разам з імі і выдатныя творчыя знаходкі.

А хто стварыў і падтрымлівае гэтую сістэму? То-та ж бо...

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ПОЛАЦК. Пакаралі супрацоўніка ДАІ



**Супрацоўніка ДАІ пакаралі за нецэнзурную лаянку і пагрозы.**

Інцыдэнт адбыўся ў Полацку тыдзень таму. На выкладзеным у інтэрнэт відэазапісе відаць грамадзянскі «Volkswagen», якім кіруе спадар у форме супрацоўніка ДАІ. Ён загадвае спыніцца спадарожнай машыне «Mercedes» і звяртаецца да кіроўцы ў нецэнзурнай форме.

Пасля з'яўлення відэазапісу ў інтэрнэце кіроўцу і пасажыру «Mercedes» патэлефанавалі з міліцыі, апыталі і выклікалі на суд у якасці сведкі і пацярпелага. Інспектара ДАІ пакаралі паводле двух артыкулаў адміністрацыйнага кодэксу — за хуліганства (нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы) і за пагрозы. Правапарушальніка не толькі аштрафавалі за гэткія дзеянні, але і звольнілі з ДАІ.

Спадар Міхаіл, сябар кіроўцы аўто «Mercedes», выкладаючы відэазапіс у інтэрнэт, зусім не спадзяваўся, што супрацоўніка ДАІ пакараюць. Таму сябры не звярталіся ні ў суд, ні да кіраўніцтва раённай ДАІ са скаргамі — не было веры ў тое, што суд пакарае міліцыянта.

Але відэаролік набраў больш за 50 тысяч праглядаў, быў рэтрансляваны ў полацкіх і наваполацкіх групах сацыяльных сетак, і карыстальнікі інтэрнэту пераважна выказваліся за тое, што супрацоўніка ДАІ варта пакараць. Цяпер у абмеркаваннях пішуць пра тое, што замоўчваць гэты выпадак было ўжо немагчыма — занадта шырока ён стаў вядомы. Таксама ўдзельнікі абмеркаванняў пішуць пра тое, што бараніць свае правы і дамагацца выканання заканадаўства варта ў тым ліку і наданнем публічнасці кожнаму падобнаму здарэнню.

### БАБРУЙСК. Касацыйная скарга журналісткі не задаволена



**Судовая калегія Магілёўскага абласуда пад старшынствам Паўла Клімава разгледзела касацыйную скаргу Марыны Малчанавай і пакінула рашэнне бабруйскай суддзі Наталлі Чарапуха без зменаў.**

«Павел Клімаў згодны з тым, што мяне трэба пакараць штрафам, але я — не. Як толькі атрымаю пастанову на рукі, буду абскарджваць далей», — адзначыла Марына Малчанава.

Нагадаем, 25 верасня ў бабруйскім судзе было агучана рашэнне суда, па якім незалежную журналістку пакаралі штрафам у 32 базавыя велічыні за парушэнне артыкула 22.9 ч.2 КаАП. Падчас азнаямлення з матэрыяламі справы Марына Малчанава знайшла ў дакументах паперы, датычныя аналагічнай справы журналіста Алеся Залеўскага. На іх стаяла паметка «для суддзі», што бабруйская журналістка расцаніла як прамую цiску на суд.

### Магілёў. Суд не стаў на бок звольненага



**Магілёўскі раённы суд палічыў, што вынесеныя Валадару Цурпанаву завода вымова за парушэнне ўнутранага распарадку прадпрыемства і дэпрэміраванне цалкам палягаюць у рэчышчы працоўнага заканадаўства.**

Паводле Валадара Цурпанава, падчас яго працы ў ААТ «Протас», якому належыць арматурны завод у Магілёўскім раёне, было парушана яго права на свабоду думак і распаўсюд інфармацыі.

«Пасля таго, як я пачаў змагацца за свае працоўныя правы, а менавіта за тое, каб у рабочых быў душавы, быў пакой для харчавання, выдавалася спецадзенне і г.д., я адчуў на сабе ўвагу адміністрацыі. Праз тры дні пасля таго, як я запісаў размову, якая адбывалася ў кабінеце юрыстаў і выклаў яе ў інтэрнэт, на заводзе выдалі Загад №16, які забараняў праносіць на тэрыторыю завода прылады, якія могуць здзяйсняць фота- і відэафіксацыю. У прыватнасці, гутарка ішла і пра мабільныя тэлефоны», — распавёў грамадскі актывіст.

Цурпанаў адзначае, што адразу пасля выхаду загаду ён стаў яго ахвярай: «Мяне пратрымалі на прахадной паўтары гадзіны. Прапусцілі на завод толькі тады, калі мой мабільны тэлефон перадалі зменнаму майстру. Я перастаў браць з сабой мабільнік, аднак працэдура асабістага дагляду мяне чакала кожную раніцу».

Валадар Цурпанаў апошнія некалькі гадоў працаваў зваршчыкам на арматурным заводзе. З ім была заключана бестэрміновая працоўная дамова.

Грамадскі актывіст мае намер абскардзіць рашэнне суда.

**Паводле сайта spring96.org**



# Польшча — Беларусь

**Адбыліся перамовы віцэ-міністраў замежных спраў Польшчы Томаша Арлоўскага і Беларусі Алены Купчыной.**

Супрацоўніцтва па консульскіх пытаннях, у галіне эканомікі і адукацыі стала асноўнай тэмай візіту ў Мінск віцэ-міністра замежных спраў Томаша Арлоўскага. Падчас кансультацый, якія прайшлі ў пятніцу, польскі і беларускі бакі ўзгаднілі пытанне адкрыцця на Беларусі аўтсорсінгавых візавых цэнтраў.

«Гэта рашэнне будзе карысным для грамадзян Беларусі, а нам спросціць работу», — падкрэсліў віцэ-міністр Томаш Арлоўскі, гаворачы пра згоду беларускіх улад на адкрыццё цэнтраў. Ён звярнуў увагу на тое, што такая працэдура апраўдала сябе на Украіне і ў Расіі. «Мы ведаем, што гэта дазваляе больш спраўна выдаваць візы. Мы таксама ведаем, што на Беларусі такую сістэму выдачы віз увяла Вялікабрытанія», — дадаў Арлоўскі.

Віцэ-міністр пры гэтым звярнуў увагу на той факт, што ўжо зараз больш за 50% шэнгенскіх віз, выдадзеных грамадзянам Беларусі, выдалі польскія консулы.

Падчас сустрэчы віцэ-міністра Арлоўскага з намеснікам кіраўніка беларускай дыпламатыі Аленай Купчынай быў таксама абмеркаваны актуальны стан адносін паміж Еўрасаюзам і Беларуссю.

Томаша Арлоўскага прыняў таксама міністр замежных спраў Уладзімір Макей. Падчас сустрэчы гаворка ішла, між іншым, пра двухбаковае эканамічнае супрацоўніцтва.

У Мінску Арлоўскі сустрэўся таксама з апостальскім нунцыем Клаўдыё Гуджароцці, кіраўніком Прадстаўніцтва Еўрасаюза Майрай Мора і прадстаўнікамі беларускай дэмакратычнай супольнасці.

Акрамя таго віцэ-міністр Томаш Арлоўскі разам з прадстаўнікамі польскай дыяспары ўсклаў вянок да Польскага крыжа ў Курапатах, які ўвекавечвае памяць забітых палякаў, ахвяр савецкіх рэпрэсій.

**Паводле прэс-службы пасольства Рэспублікі Польшча**

# Па Хатыні без акрэдытацыі

**Экскурсаводам могуць забараніць вадзіць экскурсіі «не па сваіх тэмах», агучваюць плануемыя змены ў Міністэрстве спорту і турызму.**

Напрыклад, здаў ты «Гомель — горад герой» і можаш праводзіць толькі гэтую экскурсію. Тэмы экскурсій нават будуць фіксавацца — на бэджы. Але гэта пакуль праект, які ўзгадняецца.

Калі праект прымуць, будучым экскурсаводам давядзецца абавязкова вывучыцца на курсах. Цяпер сертыфікат можна атрымаць і без курсаў: здаць іспыты экстэрнам, калі маеш профільную адукацыю.

Правілы вырашылі змяніць, бо былі скаргі на экскурсаводаў, паясніці «Еўрарадыё» ў Нацыянальным агенцтве па турызме, якое займаецца атэстацыяй. Але прыгадваюць толькі адну такую скаргу.

«Нядаўна паступіла скарга на аднаго экскурсавода, і мы анулявалі ёй сертыфікат, бо яна праводзіла экскурсію па Хатыні без акрэдытацыі», — прыгадваюць у агенцтве.

Новыя правілы ў агенцтве называюць «нармальнай еўрапейскай практыкай»: «Не будзе ніякай цэнзуры, калі экскурсавод прыходзіць на атэстацыю, ён можа падрыхтаваць любую экскурсію. Экскурсавод прыносіць свой тэкст і расказвае экскурсію камісіі, і яго атэстуюць, калі там няма заўваг. Тэмы, па якіх можна атэстоўвацца, таксама не абмежаваныя. Гэта нармальная практыка, у Еўропе ў людзей сур'ёзныя іспыты, каб стаць экскурсаводам», — дадаюць у Нацыянальным агенцтве па турызме.

Як высветліла «Еўрарадыё», у еўрапейскай Польшчы іспытаў на экскурсавода наогул няма — экскурсіі можа вадзіць кожны.

«У 2013 годзе адбыліся змены. Цяпер любы жадаючы можа праводзіць любыя экскурсіі. Няма органаў, якія б кантралявалі змест экскурсій і падрыхтоўку. Раней была ліцэнзія, там трэба было здаваць досыць складаны іспыт. Атэстацыя таксама была па пэўным горадзе», — апісвае экскурсавод Таццяна, якая водзіць турыстаў па Варшаве.

Такім чынам чыноўнікі апраўдваюць сваё існаванне, кажа Антон Астаповіч, старшыня Добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, які таксама водзіць экскурсіі і мае сертыфікат:

«Я прафесійны гісторык, займаюся этнаграфіяй, культуралагічнымі працэсамі, хто будзе візіраваць мае тэксты экскурсій, калі там няма кваліфікаваных супрацоўнікаў. Гэта знявага да нашага цэху, бо чыноўнікі загадзя лічаць сябе разумнейшымі. Атрымалі мы сертыфікаты — далей наша справа».

На сайце Нацыянальнага агенцтва па турызме знаходзім больш за тысячу атэставаных экскурсаводаў. Ва ўсіх пазначаныя тэмы, па якіх можна вадзіць экскурсіі.

**Паводле Арцёма Мартыновіча, «Еўрарадыё»**

# Спыніць падтрымку БРСМ

**Маладыя хрысціянскія дэмакраты абураныя апошнімі заявамі кіраўніцтва БРСМ, у тым ліку ў падтрымку прымусовага размеркавання, і патрабуюць забараніць дзейнасць арганізацыі ў межах навучальных установаў Беларусі.**

БРСМ з'яўляецца не толькі манапалістам, але і ўсю сваю дзейнасць здзяйсняе за кошт падаткаплатнікаў. Пры гэтым лік ідзе на мільёны долараў (36,8 млн долараў за 2005–2011 гады). У сувязі з гэтым МХД патрабуе спыніць усялякую падтрымку дармаедаў з БРСМ, а ўсе вызваленыя грошы перадаць на падтрымку дзіцячых дамоў і сістэмы аховы здароўя для дзяцей і моладзі.

«Заявы Ігара Бузоўскага паказваюць прававое бязмежжа, у якім вольна пачуваюцца сучасныя нашчадкі злачыннага камсамолу. Яны не толькі не прыносяць карысць, але і за бюджэтныя грошы прывучаюць маладзёнаў да дармаедства, кар'ерызму. У той самы час сродкаў не хапае ў лякарнях, дзіцячых дамах, паліклініках, таму мы і патрабуем забраць фінансаванне ад БРСМ і накіраваць яго менавіта на падтрымку гэтых установаў», — заявіла лідар МХД Марына Хоміч.

**Прэсавая служба БХД**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Паціху прыціскае…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларускі ўрад вельмі разлічваў, што за геапалітычныя перамогі ва ўрэгуляванні ўкраінскага крызісу Беларусі нешта абломіцца ад місіі МВФ. Аднак, як высветлілася, палітыка — палітыкай, а эканоміка — справа іншая.**





**Крыніц фінансавання ў Беларусі застаецца ўсё менш. Трэба на чымсьці зэканоміць. І віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік знайшоў, на чым. Аказваецца, эканоміць можна на дзецях**

МВФ гатовы абмяркоўваць з Беларуссю новую крэдытную праграму толькі ў выпадку гатоўнасці ўрада да рашучых крокаў па рэфармаванні эканомікі, заяву кіраўнік місіі МВФ у Беларусі Дэвід Хофман.

«Рашучыя крокі» павінны адбывацца ў самых набалелых месцах «беларускага эканамічнага цуду» — у сферы грашова-крэдытнай палітыкі, курсаўтварэнні, палітыцы заробкаў, дырэктыўным крэдытаванні эканомікі. Фонд выступае за скарачэнне аб'ёму фінансавання дзяржпраграм, ліквідацыю перакрыжаванага субсідавання і павышэнне асобных тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі і транспарт да ўзроўню кампенсацыі выдаткаў да 2017 года. «Такія крокі павінны насіць комплексны характар, прычым асноўныя намаганні варта засярodзіць на пачатковым этапе», — падкрэсліў Хофман. І дадаў, што без уключэння ва ўрадавы план іншых мер дакумент не зможа істотным чынам паўплываць на стан беларускай эканомікі.

Карацей, прапануецца ліквідаваць усё, чым так ганарыцца «сацыяльная дзяржава»: нізкія тарыфы ЖКГ, дзяржпадтрымка вёскі і прамысловых прадпрыемстваў, рэгуляваны валютны курс, рост заробкаў і гэтак далей. Зразумела, кіраўніцтва Беларусі наўрад ці на гэта пойдзе, асабліва напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. А значыць, грошай ад МВФ у хуткім часе нам не ўбачыць, як сваіх вушэй без люстэрка.

Дый не збіраемся мы выконваць гэтыя патрабаванні. Як толькі Хофман з'ехаў, на наступны ж дзень у Беларусі на 3,9% быў павышаны бюджэт пражытачнага мінімуму, а разам з ім на 1,9% павялічыўся мінімальны спажывецкі бюджэт. Гэта не вельмі паўплывае на заробак, але, тым не менш, крыху падвысіцца сацыяльная дапамога, якая разлічваецца менавіта з гэтых паказчыкаў. Вось табе і «рынкавыя адносіны з МВФ».

Расія таксама працягвае наводзіць парадак са сваім харчовым эмбарга. Расельгаснагляд паабяцаў увесці асаблівы кантроль за беларускімі прадпрыемствамі, якія пастаўляюць прадукцыю на расійскі рынак, паведаміў памочнік кіраўніка ведамства Аляксей Аляксеенка.

«Мы праводзім актыўны маніторынг рыбнай прадукцыі і надаем асаблівую ўвагу дробным прадпрыемствам, якія ў Расію рыбу раней не пастаўлялі. Наш досвед ужо паказаў, што такія прадпрыемствы часцей дапускаюць парушэнні. І, вядома ж, у першую чаргу будуць закрывацца пастаўкі з такіх прадпрыемстваў», — заявіў Аляксеенка.

Ён дадаў, што асаблівы кантроль Расельгаснагляду закране ўсе віды жывёльнай і раслiннай прадукцыі — малака, сыроў, гароднiны і садавіны. Па словах Аляксеенкі, пастаўшчыкоў, якія злоўжываюць сітуацыяй, можна злавіць не толькі на парушэнні ветэрынарных і санітарных правілаў, але і ўласна на рээкспарце. Ён заўважыў, што «адлоўліваць» патэнцыйныя партыі рээкспартнага або няякаснага тавару будуць як у Расіі, так і ў Беларусі.

У гэтай сувязі цікава, як гэта будзе адбывацца ў Беларусі. Бо Расельгаснагляд злавіў за руку ў парушэнні эмбарга не кага-небудзь, а тых, хто і абавязаны ў Беларусі выкананне гэтага эмбарга кантраляваць. А канкрэтна, Галоўную дзяржаўную інспекцыю па насенняводству, каранціну і ахове раслінаў Беларусі.

Схема была простая да прымітыўнасці. Партыя польскіх яблыкаў, каляровай капусты і таматаў у 20 тон па транзітным сертыфікаце Дзяржінспекцыі Беларусі ехала праз тэрыторыю Расіі ў Казахстан. Але да Казахстана не даязджала — машына разгружалася ў Расіі, затым вярталася ў Беларусь, запаўнялася аналагічным асартыментам і па тым жа сертыфікаце (!) зноў ішла ў напрамку Казахстана.

Расельгаснагляду ўдалося раскрыць гэтую схему дзякуючы адбітку пячаткі ўпраўлення ведамства па Цвярской і Пскоўскай абласцях на адваротным баку фітасанітарнага сертыфіката. «Гэта сведчыць аб тым, што першая партыя прадукцыі была разгружаная на тэрыторыі Расіі, пасля чаго аўтамашына вярнулася ў Польшчу за новай партыяй «транзітнага грузу», — пракаментавалі ў службе. А наша Дзяржінспекцыя па фітасанітарным кантролі, аказваецца, проста заплюшчвала вочы на тое, хто, што, куды і па якіх дакументах вязе.

Карацей, крыніцаў фінансавання ў Беларусі застаецца ўсё менш і менш. Трэба на чымсьці зэканоміць. І наш «самы сацыяльны» віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік знайшоў, на чым. Аказваецца, зэканоміць можна на дзецях.

На пасяджэнні Прэзідыума Саўміна чыноўнік распавёў, што каля 25 тысяч шасцігодак замест таго, каб пайсці ў школу, застаюцца ў дзіцячых садках. «Бюджэту гэта абыходзіцца амаль у паўтрыльёна рублёў», — адзначыў ён. Акрамя таго, чыноўніка турбуе, што «ўсё больш маці аддаюць у дзіцячыя сады дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў, самі ж пры гэтым застаюцца дома». «Гэта яшчэ адзін канал, праз які бюджэтныя сродкі сыходзяць неапраўдана: дзяржава аплачвае маці і дапамогу па догляду за дзіцем, і яго ўтрыманне ў дзіцячым садзе».

Дзівак у нас у віцэ-прэм'ер! Калі маці пойдзе працаваць, дык дзяржава павінная будзе плаціць не толькі дапамогу на дзіцё і за дзіцячы садок, а яшчэ і заробак гэтай маці. Дзе ж тут эканомія? Спрэс выдаткі! Акрамя таго, Тозік, «канешне ж» і «як заўсёды» не распавёў, што рабіць з гэтымі шасцігодкамі ў дзіцячым садку, асабліва калі шэсць гадоў дзіцяці спаўняецца, напрыклад, узімку — на вуліцу выкідаць да пачатку навучальнага года ці што?

Увогуле, гэтага дзяржчыноўніка трэба праверыць на адэкватнасць. Спачатку ён прапануе штрафаваць бацькоў, чые дзеці па непаважлівых прычынах прапускаюць дзіцячы садок, а зараз, аказваецца, дзяцей трэба з садка выкідваць. Раздвоенне асобы тут навідавоку, ці не так?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Мікалай Ладуцька

**Пасля нарады ў Лукашэнкі ўсе раптам прыняліся лавіць лайдакоў. Не стаў выключэннем і мэр Мінска.**

«Пасля нарады ў кіраўніка дзяржавы, дзе абмеркавалі пытанні выкаранення ўтрыманства і дармаедства, у Мінску на 0,7% павялічылася колькасць зваротаў гараджан па пытаннях працаўладкавання. А тэлефоны аддзелаў працаўладкавання працуюць у рэжыме гарачых ліній. Мінчане сталі больш актыўна цікавіцца, як зарэгістравацца ў якасці беспрацоўных», — паведаміла на нарадзе ў Мінгарвыканкаме старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Жанна Рамановіч.

Ладуцька адразу ж усім знайшоў працу. Старшыня Мінгарвыканкама лічыць, што непрацаўладкаваных грамадзян неабходна больш актыўна прыцягваць да працы па ўборцы тэрыторыі горада.

Між тым, тая ж Рамановіч паведаміла, што ў базе дадзеных службы занятасці горада каля 19 тысяч вакансій, 73% з якіх — па рабочых спецыяльнасцях. Найбольшую патрэбу ў кадрах адчуваюць будаўнічая галіна (каля 25% вакансій) і прамысловасць (да 21%). Акрамя таго, у сталіцы сярэдняя намінальная зарплата па выніках 9 месяцаў бягучага года склала 7,8 мільёна рублёў, у тым ліку за верасень — 8,1 мільёна.

Няўжо на заробак у 800 долараў ніхто не хоча ісці працаваць? Хутчэй за ўсё, гэтыя лічбы «дутыя». «Добраўпарадкаваннем горада» Ладуцька забівае адразу трох вушастых жывёлінак: нізкааплатнай працай «збівае» высокі сярэдні заробак па сталіцы, «змагаецца з беспрацоўем», якога і так няма (паглядзіце на колькасць вакансій), дый горад рыхтуе да зімы.



## Васіль Парфянкоў

**Палітвязень усталяваў своеасаблівы «рэкорд» горацкай калоніі, дзе ён знаходзіцца зараз.**

Васіль Парфянкоў выйшаў з чарговага карцэра, дзе правёў 10 сутак, пра што і напісаў у лісце да сяброўкі Вольгі Нікалайчык.

У карцэры ад няма чаго рабіць Парфянкоў заняўся статыстыкай. Ён падлічыў, што з 253 дзён, якія ён на той момант прабыў у горацкай калоніі, 226 дзён ён знаходзіўся ў адзіночнай камеры: альбо ў карцэры, альбо ў памяшканні камернага тыпу. То бок, у 90% тэрміну ён правёў у «адзіночцы».

«Напісаў, што з нецярпеннем чакае вызвалення. На той момант яму заставалася сядзець 45 дзён. Настрой у яго бадзёры, трымаецца», — распавяла Вольга Нікалайчык.

5 снежня 2013 года суд Першамайскага раёна Мінска пакараў палітвязня Васіля Парфянкова годам зняволення ва ўмовах калоніі строгага рэжыму за парушэнне правілаў прэвентыўнага нагляду. У 2011 годзе Парфянкоў быў асуджаны ў межах крымінальнай справы аб «масавых беспарадках» у Мінску 19 снежня 2010 года. Яго прысудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі, але ў жніўні таго ж года асуджаны выйшаў на волю на падставе ўказа Лукашэнкі аб памілаванні. Пасля гэтага былы палітвязень неаднаразова падвяргаўся пераследам з боку ўладаў, арыштоўваўся за акцыі салідарнасці з палітвязнямі.



## Віталь Радзівонаў

**Нападаючы БАТЭ, нягледзячы на апошнія паразы каманды, працягнуў кантракт з барысаўскім клубам.**

Тэрмін новага пагаднення футбаліста з БАТЭ пакуль не называецца, піша «Прессбол».

Віталь Радзівонаў далучыўся да клубу ў пачатку 2006 года і толькі ў першай палове 2009 года кароткачасова пагуляў на правах арэнды за нямецкі «Фрайбург», які тады выступаў у другой Бундэслізе.

За час, праведзены ў складзе «жоўта-сініх», Радзівонаў стаў васьміразовым чэмпіёнам Беларусі, двойчы выйграваў Кубак краіны і тройчы — Суперкубак, шэсць разоў удзельнічаў у групавых стадыях Лігі чэмпіёнаў і Лігі Еўропы.

У дадатак Віталь валодае некалькімі індывідуальнымі рэкордамі: з'яўляецца лепшым бамбардзірам у гісторыі БАТЭ (118 галоў), а таксама лепшым беларускім снайперам у еўракубках (19). Усяго на дадзены момант Радзівонаў правёў у форме барысаўчан 307 афіцыйных матчаў.


Разбураныя дамы ў Пясках


Зміцер Галко даследуе пасёлак Пяскі


Баявая пазіцыя

# «Правы сектар»:



Зміцер ГАЛКО

**Апісваючы вайну ва Украіне, было б няправільна абмінуць увагай галоўную страшылку расійскай прапаганды — «Правы сектар». Бо менавіта ад яго прыходу нібыта абаранілі Крым, а зараз Данбас. Супраць яго ў РФ распачатая крымінальная справа за «генацыд рускамоўнага насельніцтва Данецкай і Луганскай абласцей».**

У Расії часта рабілі выгляд, што ваююць не з украінскім народам, а з гэтай — надзвычай небяспечнай, ледзь не пагрозай для ўсяго чалавецтва, — палітычнай арганізацыяй. Ідэолаг «Наваросіі» Сяргей Кургінян з пенай у рота неяк галасіў: «Я прашу, я малю бандэраўскае кіраўніцтва пасладзь наперад для высвятлення адносін «Правы сектар». Мы чакаем вас. Вы хаваецеся за спіны нармальных салдат, якіх апалчэнцы не жадаюць забіваць».

## Вось куля праляцела — і ага

Хаваюцца за чые-небудзь спіны? Нічога падобнага. Байцы Добраахвотніцкага ўкраінскага корпусу (ДУК) «Правы сектар» знаходзяцца, напрыклад, у самай гарачай кропцы данбаскага фронту — Данецкім аэрапорце і прылеглым да яго паселішчы Пяскі. І, дарэчы, за апошнюю ратацыю ў «Правага сектара» тут не было ніводнага забітага.

У мяне, як у чалавека, які правёў тры ночы ў Пясках, гэты факт выклікае вялікае здзіўленне. Бо калі мне два дні запар казалі, што транспарту адсюль не будзе, уяўляючы наступны дзень, я загадзя сябе хаваў. Мне падавалася, што пры такой шчыльнасці і частаце абстрэлаў выжыць проста немагчыма. У падвале ж не праседзіш увесь час, хаця б па малой патрэбе ды выберашся. Толькі ты выбраўся, расшпіліў рэмень і гузікі, ужо нешта бабухае, свішча або стракоча. Імчышся назад, спатыкаючыся, зашпільваючы на хаду ўсе свае рамяні і гузікі. Тую сваю патрэбу не справіўшы. Адзін раз не справіш, другі, на трэці ж падумаеш: «Ды гары яно гарам!» Устанеш цвёрда, ногі шырока расставіўшы, павольна расшпілішся і зробіш тое, што збіраўся, глядзячы сурова і непахісна ў той бок, адкуль страляюць.

Тое ж самае, калі захочаш раптам перакусіць. Двойчы я ўцякаў у падвал: адзін раз з талеркай і лыжкай, другі — з талеркай, лыжкай і двума пакуначкамі локшыны хуткага прыгатавання. (Хлопцы смяяліся: «Глядзі-тка, беларусы свайго не ўпусцяць!») На трэці, заліўшы ў кухні локшыну кіпенем падчас зацішша, ужо не пабег, калі зноў пачалі шмаляць. Сеў і са смакам паснедаў, як тыя мушкецёры ў бастыёне Сэн-Жэрвэ. Сняданак пад кулямі? Хай усе варожыя артылерысты, мінамётчыкі і снайперы падавяцца. Ну а потым і выкурыць цыгарэтку захочацца не похапкам, у медытатыўным рэжыме. Нарэшце табе надакучыць цягаць на сабе паўсюль бронекамізэльку і каску...

Унутраны настрой — важная рэч. І страх, калі ён панічны, не працуе на самазахаванне, а наадварот. Але ж я далёкі ад думкі, што ўнутраны настрой можа кіраваць рэчаіснасцю настолькі, каб змяняць траекторыі куль і аскепкаў, якія лётаюць вакол у пошуках мякчэйшага цела. Тут, у Пясках, два салдаты калісьці загінулі, перакурваючы на лаўцы без бронекамізэлек і касак. «Вось куля праляцела — і ага», як у той песні спяваецца.

## Выжыць і перамагчы

Чаму ж у «правасекаў» параўнальна невысокія страты? На першы погляд, мусіла быць наадварот. Кампанія ў ДУК «Правы сектар» сабралася вельмі стракатая, але ўсе хлопцы з непалахлівых, часцяком нават празмерна абыякавыя да небяспекі. Такія, каму прыгінацца і хавацца ўнутраны стрыжань перашкаджае. Звыклыя ў поўны рост стаяць. Добрая якасць для таго, каб гераічна загінуць. Не самая лепшая, каб выжываць і перамагаць.

У «Правым сектары» не апяваюць смерць, не заклікаюць сказаць ёй «так!». Тут ставяць задачу выжыць, каб перамагчы.

«Вайна не можа проста скончыцца. Яе можна або прайграць, або выйграць. Натуральна, мы збіраемся яе выйграць. Не столькі геройствам, колькі цвярозай ацэнкай сітуацыі, уважлівасцю і ўпартасцю», — кажа Чорны, камандзір 5-га асобнага батальёну ДУК «Правы сектар», адзін са стваральнікаў «кібаргаў».


Справа — пачатковец, першы дзень як з базы прыехаў, злева — мацёры кібарг, нядаўна з аэрапорта. Ён мне казаў: «Навошта табе каска і бронік? Яны табе ўсё роўна не дапамогуць». Пяскі. Кастрычнік, 2014 год

Асоба легендарная — ён сам здабыў сабе танк у баі пад аэрапортам. Сустрэўся я з ім цалкам выпадкова — Чорны ніяк не вылучаўся ў групе розных людзей каля штабу, шараговых салдатаў і валанцёраў, проста ў нейкі момант падключыўся да размовы. Потым ён патлумачыў, што гэта прынцыпова — не адасабляцца, падкрэсліваючы сваю «камандзірскасць».

«Увогуле, камандзір — тады добры камандзір, калі ён камандуе "за мной!", а не "наперад!". Для гэтага трэба не шчокі надзімаць і казырыцца, а быць адным з салдатаў», — гаворыць камбат.

Апроч таго, тут змаглі справіцца з п'янствам, якое на гэтай (і не толькі на гэтай) вайне прывяло да шматлікіх трагедыяў. А ў Пясках камандзір роты Серко яшчэ і загадвае байцам піць малако, каб не хварэлі.

«Я адмаўляюся выконваць злачынныя загады! Бо закалябаўся ўжо вугаль піць пасля вашага малака», — жартам абураецца адзін з байцоў, але кубачак сабе налівае.

Мяне ж Серко ледзь не выселіў з падвалу, самага бяспечнага месца ў Пясках, наверх, пад кулі і «Грады»: «Бо храпеш як трактар. Дзесяць байцоў не высыпаюцца. А ім да куляў суткі ў нарадзе ўхіляцца».

На маіх вачах у Чорнага тройчы з агеньчыкам у вачах прасіліся ў аэрапорт. Адзін ажно падскокваў на месцы, так яму карцела хутчэй патрапіць у самую гарачую кропку. Чорны ўсім адмовіў. Пытаюся — чаму?

«Яны проста страцілі інстынкт самазахавання. Не разумеюць, куды просяцца. Мне там імпульсіўныя героі без патрэбы. Патрэбныя флегматыкі, якія будуць бясстрасна абкопвацца, умацоўвацца, трымаць пазіцыю. Ці ўзяць, напрыклад, таго хлопца, што прасіў прывезці ў аэрапорт групу з Харкава на пару дзён — абстраляцца. З глузду з'ехаў ці што? Знайшоў стрэльбішча. Такія турысты — гэта адразу двухсотыя», — кажа камбат.

## На прагулку ў лепшы свет

Атрымаў адлуп і я, толькі ад іншага камандзіра, з дзіўным пазыўным «Багема», у мірным жыцці — рэжысёра дзіцячага тэатра. Цяпер ён кібарг кібаргам.

«А дзе ваша бронекамізэлька, каска? Вы на прагулку ў лепшы свет мо сабраліся? Не з намі, калі ласка. Што гэта за безадказнасць такая?!» — накінуўся ён на мяне на базе перад адпраўкай у Пяскі.

Я і раней бываў у вельмі небяспечных месцах і сітуацыях, але бронекамізэльку і каску ніколі не апранаў. Мабыць, у цывільным чалавек падсвядома адчувае сябе па-за вайной і небяспекай. А ў касцы і бронекамізэльцы ты ўжо як быццам робішся яе часткай, трапляеш на мушку.

Калі мяне апранулі ў бронекамізэльку і каску, я адчуў сябе няўтульна. Дакладней, як герой фільма «Валасы» — хіпі Джордж Бергер, калі ён пастрыгся, пераапрануўся ў форму вайскоўца і пайшоў на ваенную базу, каб падмяніць сябра, Клода Букоўскі, даць яму магчымасць сустрэцца з каханай. І там яго забіраюць па трывозе ў самалёт, які адпраўляецца ў В'етнам. Джордж маршыруе ў калоне салдатаў і спявае, прыцікаючы руку да сэрца: «Я веру ў Бога, і веру, што Бог верыць у Клода. А гэта я. Не, гэта ён. Гэта я. Не, гэта ён...»

Нешта такое, кшталту «гэта не я, мяне тут няма», мармытаў я пра сябе, калі мы імчаліся ў камандзірскай машыне апошнія некалькі дзясяткаў кіламетраў да Пяскоў. Усе размовы змоўклі, толькі вецер свішча ў адчыненыя вокны, машына ашчацінілася выстаўленымі вонкі аўтаматамі. Абапал дарогі скалечаныя снарадамі дрэвы, спаленыя машыны, падбіты танк... І ты ў гэтых дэкарацыях — як нягеглая рухомая мішэнь.

«Калі машыну атакуюць, адчыняеце дзверы, вывальваецеся, толькі глядзіце, каб не галавой аб асфальт, хаваецеся за заднім колам і слухаеце каманды», — тлумачыць мне баец з пазыўным «Майсей», з якім мы разам ехалі з Крывога Рогу, і ягоныя словы аддаюцца гулкім рэхам у маіх вушах.

Пазней, калі мы ехалі праз вёску Краснае, дзе нарадзіўся Сяргей Пракоф'еў, Майсей разрадзіў абстаноўку, спытаўшыся, хто гэта такі — Пракоф'еў. Яму


Тая дарога да аэрапорта, па якой 500 метраў да ўзлётнай паласы


Разбураныя дамы ў Пясках


Бранябойная куля, якая заляцела ў пакой у нашым доме ў Пясках

# выжыць і перамагчы

наспявалі мелодыю «Танец рыцараў»: "Туру-ту-ту туру-ту-ту туру-ту-тум-тум».

«Ха-ха, выбачайце, у мяне жыццё няпростае было. Але, бачыце, гэта я ведаю. Значыць, музыку ён пісаў? А песні не пісаў? Ну, я зразумеў. Напіша музыку, а потым вы спявайце, як сабе хочаце. І як яго толькі занесла сюды, у зону АТА, Пракоф'ева таго», — смяецца Майсей.

Раптам на дарогу, адлучыўшыся ад падгулялай кампаніі, выходзіць маладая жанчына, растаўляючы рукі ў бакі, каб спыніць нашу машыну. Усе нервуюцца, перасмыкваюць затворы, спрачаюцца, ці варта спыняцца. Багема, які сядзіць за стырном, вырашае спыніцца. Майсей шыпіць, што гэта вар'яцтва, тут можа быць пастка.

«Хлопчыкі, вы на фронт? Я, гэта, проста хацела вам сказаць, што я за Украіну, вось», — гаворыць жанчына. Усе з палёгкай уздыхаюць, скорагаворкай прамаўляць: «Добра, добра». Хутка рухаемся далей.

## Былы пасёлак

Пяскі — гэта былы пасёлак, у якім, згодна з перапісам 2001 года, пражывала дзве тысячы з гакам чалавек. Перад пачаткам вайны, мабыць, іх было значна болей, паколькі тут актыўна сяліліся прадстаўнікі данецкай эліты. Тут ёсць звычайныя вясковыя хаты, некалькі кварталаў тыпавой забудовы з трохпавярховікаў, а ёсць катэджная частка з вельмі дарагімі дамамі. Дзіўна, але катэджы, на першы погляд, ад абстрэлаў сепаратыстаў пацярпелі найменей.

«Былы», бо цяпер месцам для пражывання людзей пасёлак Пяскі не назавеш. Гэта — поле бою, на якім вымушаны заставацца людзі. Без газу, святла, працы і ўсяго іншага, што мы ўспрымаем як неад'емную частку цывілізаванага жыцця. На свой страх і рызыку адна жанчына трымае краму ў сваёй кватэры, куды прыходзяць атаварыцца мясцовыя жыхары і байцы.

У мяне было ўсяго некалькі гадзін зацішша, каб даследаваць пасёлак. Недзе пісалі, быццам тут засталося трое чалавек. Я бачыў колькі дзясяткаў, хлопцы кажуць пра сотню-другую жыхароў. У асноўным гэта або самотныя старыя, або людзі, якія апякуюцца ляжачымі старымі. Аднак ёсць і сям'я з малымі дзецьмі. Яны кажуць, што пры Януковічы іх унеслі ў «расстрэльны спіс», бо яны актыўна змагаліся супраць мясцовай «эліты», дык цяпер ім тут нават спакайней, нягледзячы на пастаянныя абстрэлы.

Хто з мясцовых жыве бліжэй да месцаў размяшчэння байцоў, даўно з імі наладзілі стасункі, прыходзяць па дапамогу. Як тая сям'я з дзецьмі — па прадукты, сродкі гігіены ды іншае. Ці дзядуля, які на сваёй вуліцы застаўся адзін. Яна пастаянна абстрэльваецца, яго было раніла, ён прыйшоў і папрасіў зрабіць яму перавязку. Усе яны пытаюцца: «Калі вы тую навалач нарэшце прагоніце?»

Тыя, хто жыве далей, ставяцца насцярожана. Група жанчынаў з дэманстратыўнай бадзёрасцю павіталася пры сустрэчы з намі: «Слава Украіне!» У адной з іх быў цэлафанавы пакет яшчэ з мінулага жыцця з надпісам «Януковіч — наш прэзідэнт!». Баец, з якім мы разам гулялі, звярнуў маю ўвагу, усміхнуўся, я хацеў быў сфатаграфаваць жанчыну з тым пакетам. Дык яна спужалася, пачала апраўдвацца, маўляў, не пабачыла надпіс, проста кінула аб'едкі для сабак у першы-лепшы пакет, але гэта нічога не значыць.

«Слухай, мне ажно няёмка стала, лепей бы я не заўважаў таго пакету», — шапнуў мне баец, змяніўшыся ў твары, і пачаў запэўніваць жанчыну, што нам няма ніякай справы да таго, што ў яе там на пакеце напісана. Яна, сама ўжо немаладая, застаецца з 80-гадовай ляжачай маці ў адным з трохпавярховікаў. Ехаць няма куды і няма як. Прыцягнула ў дом печку, топіць трэскамі.

У катэджным пасёлку ёсць дом, які хлопцы паміж сабой называюць «модны». Вельмі дарагі, але даволі густоўна зроблены. Там унутры шмат такіх сіне-белых пакетаў з мінулага жыцця. Мабыць, гаспадар «моднага дому» адорваў суседзяў тымі пакетамі.

Байцы размяшчаюцца ў кінутых дамах, але іхныя баявыя пазіцыі знаходзяцца на ўскраінах пасёлку, далёка ад жылля. Пры гэтым пасёлак абстрэльваецца ўвесь. З кожным днём ацалелых дамоў застаецца ўсё меней. Падчас майго знаходжання ў пасёлку пад абстрэлам загінуў мясцовы жыхар.

Беспрытульных сабак у Пясках значна болей, чым людзей. Камбат Чорны казаў, што адсюль яны бегаюць пад'есці ў аэрапорт. Так, трупнае мяса. Пры магчымасці іх тады адстрэльваюць.

«Я паважаю ворага, пагатоў загінулага ворага. Дый сабаку, які пакаштаваў чалавечыны, проста небяспечна пакідаць у жывых», — тлумачыць ён.

## Ад «кібаргаў» будуць разбягацца хто куды

Пяскі — гэта дарога на аэрапорт, адзіны канал забеспячэння ягоных абаронцаў. З пасёлку ўсяго якіх-небудзь 500 метраў да ўзлётнай паласы. Адсюль жа вядзецца артылерыйская падтрымка «кібаргаў». Можна сказаць, што ў вайсковым сэнсе Пяскі складаюць з аэрапортам адно цэлае.

Не ўсе разумеюць, дзеля чаго вядуцца такія бязлітасныя баі за ўжо разбіты ў хлам аэрапорт. Ці не прасцей было б адтуль адыйсці, падарваўшы ўзлётную паласу? Каб пазбегнуць магчымага «катла» (Ілавайск яшчэ ўсім вельмі баліць).

«Па-першае, ён мае вайскова-стратэгічнае значэнне. Гэта неацэнная вышыня для будучага вызвалення Данецка. Я вельмі спадзяюся, што аднойчы з'явіцца палітычная воля на тое, каб яго распачаць. На мой погляд, магчымасці ў нас для гэтага ёсць. Каб узяць гэтую вышыню, адкуль выдатна можна здзяйсняць артылерыйскую падтрымку наступу, праціўніку спатрэбіцца кінуць туды сілы, якія ў дзесяць разоў пераўзыходзяць нашы. Па-другое, сімвалічнае значэнне. Калі б не геraічная абарона аэрапорта, Ілавайскі кацёл ды іншыя катастрафічныя паразы не далі б нам ачуняць. Яны б дэмаралізавалі і байцоў, і народ. Цяпер жа ў нас з'явіўся свой гонар — «кібаргі». Калі стане вядома, што дзе-небудзь у атаку пайшлі кібаргі, ворагі проста разбягуцца хто куды. Нарэшце, аэрапорт выкоўвае па-сапраўднаму баяздольнае вайсковае падраздзяленне, якое можа стаць у будучыні ўкраінскім спецназам», — гаворыць Чорны, камандзір 5-га асобнага батальёна ДУК «Правы сектар».

## Яны трымаюць «Неба» і «Зямлю»

У мяне няма жалезабетонных палітычных поглядаў, любы артадаксальны прыхільнік якой-небудзь ідэалогіі адмовіцца прызнаць мяне аднадумцам. Але тыя, хто ёсць, вельмі далёкія ад поглядаў правага спектру, не кажучы ўжо аб ультраправым. На фашызм у мяне моцная алергія, і я, як любы алергік, востра адчуваю прысутнасць свайго алергену. Калі б «Правы сектар» хаця б напалову адпавядаў створанаму расійскай прапагандай вобразу, я б не тое што некалькі дзён, некалькі гадзін не вытрымаў бы ў яго гушчы.

Калі пад «фашыстам» мецьна ўвазе не проста каго-небудзь, хто нам вельмі не падабаецца, а прыхільніка пэўнай палітычнай ідэалогіі, ён жа мусіць сваю прыхільнасць неяк праяўляць? Так ці іначай з яго мусіць вылезці гнілое нутро — у першую чаргу жаданне расправіцца нарэшце з якой-небудзь нацмешасцю, пасля чаго жыццё мае наладзіцца. Ён павінен дэманстраваць і ахоўваць нацыянальную чысціню.

Трэба сказаць, да «Правага сектара» я патрапіў выпадкова. Вечарам заўважыў у стужцы фэйсбука запіс свайго знаёмага валанцёра, што нехта збіраецца ехаць з Крывога Рогу ў Пяскі і аэрапорт, папрасіў іх кантакты, перакінуўся слоўцам, а ў пяць гадзін раніцы ўжо сядзеў у машыне з трыма крыварожцамі, адной жанчынай і двума мужчынамі. Жанчына — каталічка з польскімі каранямі. Адзін з мужчынаў — з габрэйскімі каранямі і шматлікімі сябрамі сярод сванаў, бо сванкай была яго першая жонка. Другі — з высмажаным, але вясёлым тварам пралетара, у якога, паводле Маркса, няма айчыны. Мы выехалі пад каталіцкую малітву, ехалі пад грузінскія і габрэйскія песні, а таксама пад кароткія і важкія заўвагі чалавека, які двума нагамі стаіць на зямлі. Усе трое размаўлялі на рускай мове.

Калі б на адной з заправак па дарозе вайсковец не спытаў у маіх спадарожнікаў, з якога яны падраздзялення, і яны б не сказалі, што з «Правага сектару», я б да канца дарогі мог не здагадацца, што яны маюць да яго нейкае дачыненне.

Што аб'ядноўвала іх траіх? Толькі адно — жаданне спыніць знешняга ворага, а з часам перамагчы ўнутранага. І гэта зусім не «рускамоўнае насельніцтва Данецкай і Луганскай абласцей», а карумпаванае чыноўніцтва, якое разглядае Украіну ў якасці сваёй кармавой базы.

Ядвіга, тая самая жанчына з польскімі каранямі, у мінулым служыла ў войску, потым працавала аператыўным работнікам, напярэдадні Майдану збіралася эміграваць, бо лічыла, што Украіну ўжо нічога не ўратуе — яе дашчэнту выгрызе знутры карумпаваны чыноўнік. Майдан змяніў яе планы, бо з'явілася надзея, што весці рэй у краіне нарэшце пачнуць патрыёты, людзі з дзяржаўным, а не тарбахвацкім мысленнем.

Пазнейшае знаёмства з некалькімі дзясяткамі байцоў пацвердзіла абсурднасць абвінавачвання «Правага сектару» ў жаданні здзейсніць «генацыд рускамоўнага насельніцтва Данецкай і Луганскай абласцей». Хаця б таму, што пераважная большасць байцоў самі былі рускамоўнымі (часам я заставаўся адзіным у кампаніі, хто размаўляў па-ўкраінску), а некаторыя — жыхарамі тых самых шматпакутных абласцей. Што да абласцей, «Правы сектар» аказаўся зусім не партыяй заходніх рэгіёнаў, суадносіны выхадцаў адтуль там прыкладна такія самыя, як у цэлым па Украіне. Прычым заходнікі скардзіліся мне на «куркульскае» мысленне сваіх землякоў, якія не разумеюць, што яны забылі на Данбасе. Маўляў, не да нас жа бяда прыйшла, чаго табе немаведама куды цягнуцца.

Баец з пазыўным «Ксёндз», вясковец, які ў Пясках знайшоў кінутую карову і далучыў яе да вайсковай гаспадаркі, на гэта адказваў вельмі проста, з гумарам: «Гэта што ж, прыйдзе да нас вось такі самы «шчыры бандэравец», як я, і кароўку маю забярэ? Не, дружа, не трэба».

Забаўна, але сярод заходнікаў, якія трапляліся мне ў «Правым сектары», якраз было шмат такіх, хто прыйшоў абараніць «сваю кароўку». У той час як ідэйных, якія мыслілі ў катэгорыях дасягнення да ладу кіраўніцтва краінай, болей сустракалася сярод жыхароў іншых рэгіёнаў.

Як на мой погляд, «Правы сектар» — гэта нешта кшталту адрэналіну, які выпрацаваў грамадскі арганізм у патрэбны момант. Пры ўмове, калі цяперашнія ўлады зробяць сапраўдную працу над памылкамі сваіх папярэднікаў, узровень адрэналіну заканамерна знізіцца.

А пакуль тое, яны трымаюць «Неба» і «Зямлю» (умоўнае пазначэнне ў перамовах па рацыі двух баявых пазіцый) у Пясках і гартуюць сталь у Данецкім аэрапорце.

*«Мы точно знаем, что такое страх.*
*Мы знаем вкус земли, наш вечный спутник — холод.*
*Мы потерялись в днях и вечерах,*
*И перестали различать, кто стар из нас, кто молод.*
*Наш окоп — наша крепость и наш гроб.*
*Но мы пришли сюда не погибать, а выжить...»*

Гэта верш байца з пазыўным «Сатыр», які сказаў пра сябе: «Бацька ў мяне рускі, маці з Луганску, а я першы ў нашым родзе бандэравец».

# Што будзе з Украінай?

Алег НОВІКАЎ

**Па выніках парламенцкіх выбараў 26 кастрычніка ва Украіне ў публікацыях і каментарах украінскіх палітолагаў сфармавалася прыкладна чатыры асноўных сцэнары далейшага развіцца падзей у краіне.**



### Пазітыўны сцэнар

Асноўны тэзіс прадстаўнікоў пазітыўнага сцэнару — пасля выбараў 26 кастрычніка ўкраінцы атрымалі фантастычны шанец на правядзенне глыбокіх і часам, магчыма, вельмі балючых рэформаў, якія дазволяць краіне імкліва парваць з саўковым і карумпаваным мінулым ды і адчыняць шлях у Еўропу.

Пра патэнцыял магчымага прарыву перш за ўсё сведчыць унікальны склад дэпутацкага корпусу новай Вярхоўнай Рады. Каментатар Віктар Портнікаў адзначае: «Я бачу першы сапраўдны ўкраінскі парламент за ўсе гады незалежнасці. У апошнія 23 гады ва ўкраінскім парламенце ўвесь час ішла барацьба паміж тымі сіламі, якія выступалі за пабудову незалежнай еўрапейскай суверэннай дзяржавы, і тымі палітычнымі сіламі, якія, па-сутнасці, былі калабарацыяністамі і здраднікамі, агентамі Крамля, людзьмі на ўтрыманні ва Уладзіміра Пуціна і іншых. Цяпер у новым парламенце падобныя палітычныя сілы амаль не прадстаўленыя».

Аптымісты таксама звяртаюць увагу на тое, што па выніках галасавання ўдалося захаваць тандэм Яцанюк—Парашэнка. «Яшчэ адзін момант звязаны з выдатнымі вынікамі Блока Парашэнкі і «Народнага фронту». У нас ужо практычна гатовая кааліцыя. Гэта добры сігнал для нашых замежных партнёраў, якім не трэба будзе прыглядацца да новага прэм'ера, ды і самому прэм'еру не патрэбны час на засваенне ў новай пасадзе, ён проста працягне працаваць», — лічыць палітолаг Анатоль Фесенка. Іншымі словамі, ёсць перадумовы, што Украіна сапраўды выканае прапанаваны прэзідэнтам план рэформаў, які ў выпадку рэалізацыі дазволіць краіне ўжо ў 2020 годзе адпавядаць усім крытэрам краіны-кандыдата ў ЕС.

### Памяркоўна-пазітыўны сцэнар

Трэба прызнацца, што энтузіязм Фесенкі або Портніка ўласцівы малой фракцыі ўкраінскіх палітолагаў і аналітыкаў. Значна больш папулярная думка пра тое, што праеўрапейскі па рыторыцы парламент на самай справе акажацца не здольным кінуць выклік карупцыі і алігархату. Прынамсі, такога погляду трымаецца дырэктар Міжнароднага інстытута дэмакратыі Сяргей Таран. «Упершыню ва ўкраінскай гісторыі ў парламенце не будзе тэмаў, якія заўсёды расколвалі грамадства — мова, культура, куды мы рухаемся — у NATO ці ў Расію. У парламенце цяпер будзе выразная праеўрапейская большасць — і гэта адлюстроўвае настроі ўкраінскага грамадства. Але на гэтым аптымізм заканчваецца», — адзначае Таран. На яго думку «антыалігархічныя тэндэнцыі Майдана ў новым парламенце ў выніку не праявіліся»: «Наадварот, улада грошай узмацнілася. Каб зразумець, хто з алігархаў «лялькавод» таго ці іншага палітычнага праекту ці «лідара», ужо не трэба быць палітычным аналітыкам — усё на паверхні».

Аднак пры гэтым той жа Таран і іншыя палітолагі не губляюць надзеі на тое, што праеўрапейскі вектар ва ўкраінскай палітыцы застанецца дастаткова паслядоўным. Базай для аптымізму ёсць настроі ў грамадстве. Асаблівасцю сітуацыі, калі верыць парталу «Захід», з'яўляецца тое, што «публіка больш не жадае чакаць, калі начальства вызначыцца з рэформамі». «Гэта даволі рэдкая сітуацыя, калі рэформаў прагнуць самыя звычайныя людзі. Зразумела, што пра сутнасць гэтых рэформаў публіка мае самае аддаленае ўяўленне, але факт ёсць факт. Нацыя не жадае быць пасіўнай ахвярай, аб'ектам для маніпуляцый улады. У такой атмасферы сабатуючая рэформы новая Вярхоўная Рада можа доўга не праіснаваць. Яе зменіць больш рэфармісцкая», — піша «Захід».

### Памяркоўна-негатыўны сцэнар

Адпраўная кропка аўтараў і адэптаў гэтага сцэнару — патавая сітуацыя, які склалася ў новым парламенце. Палітолаг Міхаіл Паграбінскі піша: «Галоўны парадокс гэтых выбараў складаецца ў тым, што тыя, хто больш за ўсё на іх настойвалі, жаданага не атрымалі. Не сакрэт, што рухавіком датэрміновага роспуску парламента быў Пётр Парашэнка, які разлічваў канверсаваць свой прэзідэнцкі рэйтынг у мандаты. Адначасна ставілася мэта пазбавіцца ад Яцанюка і сфармаваць Кабмін, што быў бы здольны больш эфектыўна весці перамовы з Крамлём, а таксама разбурыць амбіцыі і фінансавыя апетыты Каламойскага, які будуе сваё аўтаномнае ад Кіева княства ў Днепрапятроўску».

Аднак у выніку «аднапалярны свет» у новай Радзе так і не паўстаў, не кажучы ўжо пра электаральную катастрофу самога Парашэнкі, які страціў за чатыры месяцы 30 працэнтаў выбаршчыкаў.

Цяпер Блок Парашэнкі і «Народны фронт» маюць дзве прыблізна роўнавялікія фракцыі, што значыць непазбежнасць кааліцыі. Цяжка сказаць, наколькі ўстойлівы будзе іх саюз, калі пры прыняцці кожнага рашэння сябрам аб'яднання прыйдзецца дамаўляцца. У падобнай сітуацыі не выключана, што ўкраінцаў чакае новы эпізод вядомай драмы «прэм'ер супраць прэзідэнта», якую краіна апошні раз назірала ў 2008–2009 гадах, калі моцна пацапаліся Юшчанка і Цімашэнка. Вынікам іх разборкі стаў паралюш улады, крызіс аранжавых, татальнае расчараванне электарату ў праеўрапейскіх сілах і, нарэшце, лагічная перамога Партыі рэгіёнаў (у абноўленай версіі ролю Партыі рэгіёнаў можа згуляць Апазіцыйны блок, які змог акумуляваць ядро выбаршчыкаў Партыі рэгіёнаў).

### Негатыўны сцэнар

Вынікам рэалізацыі гэтага сцэнару будзе значнае паслабленне канструкцыі ўкраінскай дзяржаўнасці з усімі наступствамі. Гэта можа быць следствам дэстабілізацыі палітычнай сітуацыі, для чаго, на думку тых, хто падзяляе такі сцэнар, ствараюцца ўсе перадумовы.

«Кааліцыя БП і «Народнага фронту» з прэм'ерствам Яцанюка азначае кансервацыю цяперашняй сацыяльна-эканамічнай і знешняй палітыкі краіны, — лічыць палітолаг Канстанцін Бандарэнка. — Гэта азначае, што з Расіяй мы наўрад ці дамовімся па газе і ўзімку будзем мерзнуць у кватэрах і сядзець без гарачай вады. Гэта азначае, што па патрабаванні МВФ урад працягне павялічваць тарыфы і падаткі, пры гэтым падразаючы сацвыплаты. У выніку эскалацыя сацыяльных пратэстаў проста непазбежная, нават калі вайна будзе адцягваць частку ўвагі грамадства.

Песімісты таксама нагадваюць, што на апошніх выбарах была зафіксаваная самая нізкая яўка. Як след, характар бунту будзе дэструктыўны для дзяржаўных устаноў: «Мільёны незадаволеных не вераць у выбарчыя механізмы. І тут хаваецца таксама патэнцыйная пагроза для краіны — па меры пагаршэння сацыяльна-эканамічнага становішча гэта незадаволенасць можа знайсці свой выраз па-за сценамі парламента».

Сам пратэст паводле большасці публікацый можа набыць фармат путчу вайсковых частак і так званых добраахвотных батальёнаў, камбаты якіх публічна пагражаюць урадавым чыноўнікам. Магчыма і новая рэдакцыя на месцах тутэйшых ДНР. З улікам таго, што безумоўным лідарам электаральнага байкоту апошніх выбараў стаў усход краіны, няма ніякіх сумневаў, што градус сепаратызму ў выпадку сацыяльнага калапсу пойдзе ўверх.

Застаецца дадаць, што самі аматары апакаліпсічнай тэорыі прызнаюць: апатыя насельніцтва вельмі моцная, каб чакаць такіх пратэстаў раней за вясну. Так што ва ўкраінскай эліты ёсць час прааналізаваць усе прагнозы палітолагаў і не дапусціць негатыўных сцэнараў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Маючы фактычна ізаляваную інфармацыйную прастору паміж Беларуссю і Украінай, аднаасобны пафас Лукашэнкі пра братэрства, сапраўды, можа выклікаць ілюзію падтрымкі з боку Беларусі. Але гэта, вядома, не так. Незалежныя апытанні паказваюць, што большасць беларусаў на баку Расіі і супраць Майдана ў крамлёўскай інтэрпрэтацыі. Гэта факт, гэта тэндэнцыя, якія б руковыя акуляры ні апранала ўкраінскае кіраўніцтва цяпер. «Любоў» Лукашэнкі да Украіны нічым не адрозніваецца ад «любові» Лукашэнкі да Расіі. У тым і іншым выпадку крыніца гэтай «любові» — выгада.

**«Корреспондент» (Украіна)**

Сёння ў беларускіх працоўных існуе толькі адзін спосаб барацьбы за сваю заробатную плату — пасіўны, шляхам міграцыі на часовую працу ў Расію. Таму яшчэ адной задачай гэтых мер (кампанія супраць дармаедаў) з'яўляецца фактычны прымус гастарбайтэраў і «ценявых» рабочых вярнуцца на дзяржаўныя і прыватныя прадпрыемствы Беларусі і прыняць той памер заработнай платы (як мінімум у 2–3 разы ніжэйшы за іх цяперашні ў Расіі) і тыя ўмовы працы, якія ім прапануе афіцыйны працадаўца.

**«Русская планета» (Расія)**

Іхоць яснага адказу не прагучала, але сам факт праведзенай размовы, магчыма, кажа калі не аб глабальных пераменах у дачыненні да пісьменнікаў, якім да нядаўняга часу наракалі на ідэйную чужасць, то хаця б аб з'яўленні думкі, што перамены патрэбныя. Бо праўдзівы саюз пісьменнікаў актыўна, доўга і таленавіта ўдзельнічаў у насаджэнні аскепкаў савецкай беларускай ідэнтычнасці, апелюючы да гісторыі, напісанай савецкімі ідэолагамі. Але, верагодна, наступіў момант, калі ўладзе больш патрэбныя «несумленныя» літаратары, таму што менавіта яны пішуць пра той тып ідэнтычнасці, які трэба сцвярджаць, улічваючы палітычны кантэкст і пагрозу страты суверэнітэту.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Украіна зараз знаходзіцца ў сітуацыі, якая нагадвае беларускую тры гады таму. «Бацька Лукашэнка гуляўся перад выбарамі ў папулізм, значна павялічыў выдаткі. Быў шалёны дэфіцыт бягучага рахунку. Заціснулі валютны рынак — тое самае, што цяпер робіць кіраўнік Нацбанка Гантарова. З'явілася некалькі курсаў валюты: афіцыйны, аўкцыённы, для мянялаў. Так яны пражылі некалькі месяцаў. Бацька запусціў друкарскі станок на поўную магутнасць — і ўсё паляцела. Калі мы не паменшым тэмпы друку грыўні, рызыкуем паўтарыць лёс Беларусі

**From-ua.com (Украіна)**

Абвяшчэнне строгіх мер супраць дармаедаў узбудзіла абывацеляў, актывізавала спецыялістаў па ідэалагічнай працы — барацьба з дармаедствам стала тэмай палітінфармацыяў у працоўных калектывах. Але незалежныя эканамісты і эксперты настроеныя скептычна. У наступным годзе Лукашэнку чакаюць чарговыя прэзідэнцкія выбары, і яму важна падтрымліваць ілюзію сацыяльнай дзяржавы і тэму сацыяльнай справядлівасці.

**«BBC» (Вялікабрытанія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІТАЛІЯ. Нацыяналізацыя немцаў

Незвычайную пастанову прыняў італьянскі канстытуцыйны суд. Паводле яго рашэння, грамадзянам краіны дазваляецца патрабаваць ад Германіі кампенсацыі за тыя крыўды, што былі зробленыя ім або іхнім продкам фашысцкімі акупантамі падчас Другой сусветнай вайны (ФРГ лічыцца афіцыйным нашчадкам трэцяга рэйху). Навіна, натуральна, не спадабалася немцам. Тым больш, што яшчэ ў далёкім 1947 годзе Рым выставіў на адрас Бона рахунак памерам у 40 мільярдаў лір, які дапамог бы забыцца на ўсе злачынствы, якія нацысты зрабілі падчас вайны на Апенінах. У 1961 годзе ФРГ выплаціла тую суму, аднак цяпер гісторыя паўтараецца. Праўда, на гэты раз ісk высунуць, хутчэй за ўсё, нашчадкі ахвяр нацыстаў. На думку часопіса «Spiegel Online», як мінімум дзясяткі тысяч італьянцаў могуць запатрабаваць у Берліна грашовую кампенсацыю за сваіх забітых нацыстамі продкаў. Натуральна, нямецкі бок будзе намагацца не плаціць па тых судовых пастановах. У сувязі з гэтым згаданае выданне нават не выключае нацыяналізацыі ўсёй маёмасці ФРГ у Італіі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. 187 тысяч долараў за пацалунак з Пушкіным

Суд Алма-Аты вырашыў спагнаць з рэкламнага агенцтва «Havas Worldwide Kazakhstan» 34 мільёны тэнге (каля 187,5 тысячы долараў) на карысць 34 пазоўнікаў з мясцовай кансерваторыі імя казахскага кампазітара Курмангазы. Прычынай стаў выкладзены ў жніўні гэтага года ў сеціва малюнак з вывай пацалунку Курмангазы Сагырбайулы і рускага паэта Аляксандра Пушкіна. Выява выклікала шок. Мастакоў адразу арыштавалі. Аднак гэта быў толькі пачатак. Пасля з'яўлення малюнку ў сеціве 11 супрацоўнікаў кансерваторыі, 13 студэнтаў і 10 музыкаў з аркестра імя Курмангазы падалі калектыўны іск, дзе сцвярджалі, што «неэтычная» выява абражае гонар і годнасць не толькі нашчадкаў кампазітара, але і ўсіх людзей, неабыякавых да мастацтва. Суд задаволіў іск аматараў мастацтва, чым, на думку грамадства, канчаткова давёў замоўны характар і поўны абсурд учынкаў казахскай Феміды.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. 25 гадоў выхаду ўніятаў з падполля

Напрыканцы кастрычніка споўнілася 25 гадоў выхаду ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы (УГКЦ) з падполля. Нагадаем, што царква была забароненая ў 1946 годзе пасля таго, як арганізаваны савецкімі ўладамі Львоўскі сабор скасаваў пастановы Брэсцкай уніі. Такім чынам, усе ўніяты мусілі перайсці пад эгіду Рускай праваслаўнай царквы. Нягледзячы на забароны, УГКЦ фактычна працягнула сваё існаванне, у тым ліку пад дахам Каталіцкай царквы. Магчыма, перaслед царквы ў 1960–1980-я гады быў звязаны са справай Берыі. Пасля смерці Сталіна, шукаючы саюзнікаў у барацьбе за ўладу ва Украіне і ў іншых нярускіх рэспубліках, Берыя выступіў супраць русіфікацыі Заходняй Украіны. Яго пасланцы пачалі таемныя перамовы з уніятамі наконт нармалізацыі адносін з Ватыканам і легалізацыі Грэка-каталіцкай царквы на Заходняй Украіне. Размовы з мітрапалітам былі перапыненыя пасля арышту Берыі. Пасля ўлады катэгарычна адмаўляліся ад любой лібералізацыю ў гэтай галіне да самай перабудовы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Канец субкультуры Брыджэт Джонс

Увесь свет у шоку ад новага іміджу актрысы Рэнэ Зелвегер. Днямі Рэнэ, якой 42 гады, з'явілася на публіцы вельмі схуднелай, спартыўнай і, хутчэй за ўсё, пасля пластычнай аперацыі. Яе новы стыль выклікаў сярод часткі яе фанатаў расчараванне, паколькі актрыса абсалютна не падобная на персанаж Брыджэт Джонс, ролю якой яна ў свой час выканала. Брыджэт Джонс — тыповая жанчына ва ўзросце крыху больш за трыццаць гадоў, самотная, якая пастаянна знаходзіцца ў пошуку канструктыўных адносін з мужчынам. Заўсёды спрабуе схуднець, кінуць паліць і абмежаваць алкаголь, але сустрэчы з любімымі сяброўкамі пастаянна бурыць гэтыя напалеонаўскія планы. Пасля таго, як у 2001 годзе Зелвегер выканала ролю Брыджэт Джонс, у свеце ўзнікла цэлая армія феміністак, якія ждалі быць падобныя да Брыджыт. Хутка яе імя стала сінонімам барацьбы супраць стэрэатыпаў, якія буржуазнае грамадства навязвае жанчынам. Цяпер аказалася, што актрыса абсалютна не ідэнтыфікуе сябе з Джонс, і ёй хутчэй падабаецца весці звычайны спажывецкі лад жыцця. Пакуль феміністкі рух прыходзіць у сябе, Рэнэ заявіла, што маркуе зняцца ў новай серыі пра прыгоды Брыджэт Джонс.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Марш супраць маршу

Алег НОВІКАЎ

**З-за падзей ва Украіне «Рускі марш» — штогадовая акцыя нацыяналістаў, прымеркаваная да свята Дня нацыянальнага адзінства 4 лістапада, — у гэтым годзе радыкальна мяняе фармат.**




Сітуацыя з цяперашнім Рускім маршам нагадвае сцэну з фільму «Каўказская палонніца», калі адзін з галоўных персанажаў кажа: «Той, хто нам перашкаджаў, нам і дапаможа».

Рускі нацыяналізм апошнім часам быў галаўным болем Пуціна. Манежная плошча, Кандапога, Бірулёва — няпоўны спіс пагромаў на нацыянальнай глебе, якія не так даўно пракаціліся па Расіі. Вельмі важную ролю ў кансалідацыі і легітымізацыя праварадыкалаў адыгрывала 4 лістапада — Дзень рускага адзінства, прызначаны святам у гонар вызвалення Масквы ад войскаў Рэчы Паспалітай. Відавочна, што свята прыдумалі як эрзац 7 лістапада. Аднак у выніку з-за сваёй абстрактнасці ідэя ў народ не пайшла. Затое Дзень рускага адзінства хутка стаў фішкай праварадыкльнай субкультуры. Сярод яе аматараў паступова сфарміраваўся рытуал святкавання, цэнтральнае месца ў якім займае «Рускі марш», які заўсёды быў прологам вулічнага гвалту. Напрыклад, у мінулым годзе «Рускі марш» сабраў у Маскве калі дзесяці тысяч чалавек і пасля заканчэння перарос у лакальныя бойкі з імігрантамі.

Падзеі ва Украіне дазволілі ўладам перахапіць ініцыятыву. Менавіта Крэмль, а не барацьбіты з імігрантамі, выглядае ў вачах расіянаў галоўным абаронцам інтарэсаў нацыі, якой пагражае Дзярждэп і Правы сектар. Апафеозам яднання народаў Расіі вакол Пуціна стане 4 лістапада гэтага года, калі па ўсёй краіне пройдуць афіцыйныя «Рускія маршы» ў падтрымку Наваросіі.

Сярод іх арганізатараў можна пабачыць прадстаўнікоў усіх парламенцкіх партый, большасці непарламенцкая палітсілаў, а таксама дыяспар. Нават камуністы, якія доўга байкатавалі свята 4 лістапада, пагадзіліся далучыцца да маніфестацыі.

Змена кан'юнктуры пашырыла геаграфію «Рускіх маршаў» перш за ўсё ў аўтаноміях. Уфа і Казань, якія шараҳаліся ад такіх шэсцяў, у гэтым годзе выдалі дазвол на іх правядзенне. Так, рускім нацыяналістам дазволена прайсці строем па ўскраінных вулачках аднаго са спальных раёнаў Уфы, што для іх — вялікая перамога.

Праўда, дазвол даецца на «Рускія маршы», які арганізуюць правільныя нацыяналісты.

**Канстанцін Крылоў лічыць, што расійскі кіруючы клас зробіць усё магчымае, каб фармацыі накшталт ДНР і ЛНР не сталі рускімі нацыянальнымі. Калі тое не атрымаецца, гэты праект проста зачыняць**

Між тым, у Расіі існуюць і такія нацыяналісты, якія падтрымліваюць Кіеў, або, прынамсі, сцвярджаюць, што Пуцін гуляецца ў патрыятызм выключна з часовых прагматычных інтарэсаў. Ідэолагамі гэтай плыні прапануецца абсалютна іншае бачанне тых жа падзеяў на Данбасе.

«Наша ўлада гатова падтрымліваць Данбас, але выключна ў фармаце, які ёй зручны. Не як «рускую ірэдэнту» (на чым, уласна, настойваюць нацыяналісты), а як асобную савецкую рэспубліку або абстрактную антыфашысцкую дзяржаву. У адрозненне ад сепаратызму, «ірэдэнтызм» азначае ўз'яднанне штучна падзеленай нацыянальнай супольнасці. Нагадаю, першапачаткова «руская вясна» (у тым ліку ў Крыме) адбывалася пад лозунгам уз'яднання рускіх на паўднёвым усходзе Украіны з гістарычнай радзімай», — кажа расійскі нацыяналіст Канстанцін Крылоў. На яго думку, «расійскі кіруючы клас зробіць усё магчымае, каб фармацыі накшталт ДНР або ЛНР не сталі рускімі нацыянальнымі. Калі тое не атрымаецца, гэты праект проста зачыняць. Зразумела, што лідарам апалчэнцаў цяпер вельмі моцна выкручваюць рукі».

Ставіцца пад сумнеў і папулярны ў расійскім афіцыёзе тэрмін «рускі свет». «Пра які-небудзь «рускі свет» можна будзе казаць тады, калі будзе абраны прэзідэнт Рускай Рэспублікі ў складзе Расійскай Федэрацыі (ці будуць кандыдаты з адпаведнай праграмай). А пакуль сам тэрмін «рускі свет» некарэктны, з прычыны адсутнасці нават зародку самаарганізацыі ў рускіх», — пішуць на сайце «Руху рускія».

У прынцыпе, расійская нацыяналістычная субкультура нават да расколу па пытанні Украіны была дастаткова маргінальнай, а зараз, пасля падзелу на прамайдан і антымайдан, тым больш. Аднак паранойя наконт магчымага Майдану ў Расіі пераварыла Крылова і кампанію ледзь не ў ворага расійскай дзяржавы нумар адзін. Нядаўна быў узяты пад варту былы лідар руху супраць імігрантаў Аляксандр Бялоў (Поткін). Афіцыйна яго падазраюць у дачыненні да крадзяжу актываў аднаго з банкаў. У той жа час паплечнікі лічаць, што перaслед Бялова звязаны з яго палітычнай дзейнасцю.

Ілюстрацыяй гэтай тэндэнцыі сталі пакуты антыпуцінскіх нацыяналістаў пры спробах атрымаць дазвол на свой «Рускі марш» у гэтым годзе. На перыферыі (Кіраў, Тальяці, Вялікі Ноўгарад) улада ўвогуле гэтага не зразумела і адразу паказала арганізатарам на дзверы. У Маскве давялося шукаць іншыя формы працы. Яшчэ напярэдадні падачы заявак прадстаўнікі сілавых структур прапаноўвалі нацыяналістам адмовіцца ад акцыі і на год «замарозіць» дзейнасць арганізацыі ў сувязі са складанай палітычнай сітуацыяй. Пасля таго, як тыя адмовіліся, ім прапанавалі правесці акцыю ў Люблiно — на ўскраіку гораду. На цяперашні момант частка патрыётаў пагадзілася адправіцца мітынгаваць у Люблiно. Праўда, без традыцыйнага канцэрту — усе музыкі, якія спачатку пагадзіліся спяваць за рускую ідэю, раптам «захварэлі». Іншыя (лідар Дзмітрый Дзёмушкін) не выключаюць, што яны выйдуць на «рускі народны сход» у цэнтры Масквы, калі марш не будзе ў выніку ўзгоднены.

Цяжка сказаць, наколькі сур'ёзныя пагрозы Дзёмушкіна, і ўвогуле якія перспектывы гэтай фракцыі рускіх нацыяналістаў. Затое відавочна, што пуцінская эліта ўсё больш захапляецца гульнёй у рускіх патрыётаў, што вельмі небяспечна для такой шматнацыянальнай краіны, як Расія. Напрыклад, у той жа Уфе актывісты башкірскай арганізацыі «Башкорт» сцвярджаюць, што «гэта акцыя (Рускі марш) успрымаецца карэнным народам як агрэсія супраць суверэнітэту Башкірыі», і пагражаюць «зрабіць усё магчымае, каб не даць маршу адбыцца».

# Эканоміка Эболы

Алег НОВІКАЎ

**Ці паўплывае эпідэмія ліхаманкі Эбола на глабальную і рэгіянальныя эканомікі?**




Пакуль што слова «Эбола» ў Беларусі хутчэй выклікае канатацыі з чымсьці экзатычным. Нават пасля шпіталізацыі хворага на ліхаманку ў суседняй Польшчы, праблема ліхаманкі далёка не ў топе самых актуальных беларускай тэмаў. Гэта абсалютна зразумелая рэакцыя — слаба верыцца, што афрыканская зараза дабярэцца да Беларусі.

Аднак адчуць яе наступствы нам усё роўна давядзецца. Эпідэмія захапіла не далёкую касмічную галактыку, а краіны, якія даўным-даўно інтэграваныя ў глабальную эканоміку, часткай якой з'яўляецца і эканоміка Беларусі. Таму, магчыма, нас чакаюць змены, ускосна выкліканыя смяротным вірусам.

Хутчэй за ўсё, першымі адчуюць на сабе наступствы эпідэміі айчынныя аматары футболу. У штабе ФІФА ўжо абмяркоўваюць ідэю скасавання турніру Афрыканскага кубку нацый, які мусіў пачацца 17 студзеня ў Марока. Як піша іспанская «El País», мараканскі кароль ужо папрасіў Федэрацыю перанесці дату чэмпіянату на наступнае лета: да гэтага часу спадзяюцца лакалізаваць ачаг эпідэміі. Яшчэ адзін варыянт — перанесці чэмпіянат у іншую краіну. Галоўныя кандыдаты на правядзенне Афрыканскага кубка нацый — Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка і Гана. СМІ пішуць, што канчатковае рашэнне будзе прынятае на пачатку лістапада.

Іншай ахвярай Эболы могуць стаць аматары шакаладу. 70 працэнтаў сусветнай вытворчасці какава-бабоў прыходзіцца на краіны Заходняй Афрыкі. Калі крызіс хутка не скончыцца, варта з вялікай верагоднасцю чакаць росту коштаў, прагназуюць эксперты. Праўда, трэба згадаць, што некалькі гадоў таму ў суседнім Кот-Дывуары (адзін з лідараў па вытворчасці какава-бабоў) была грамадзянская вайна, але асабліва на кошты шакалада яна не паўплывала.

Шматлікія кампаніі, якія працуюць у зоне распаўсюджвання Эболы, ужо прыпынілі вытворчую дзейнасць і эвакуявалі персанал з небяспечных рэгіёнаў. На думку Сусветнага банка, гэта ўдарыць па бюджэтах карпарацый і акажа ўплыў на біржы. У гэтым плане магчымае падзенне біржавых індэксаў, што прымусіць інвестараў прытармазіць задуманыя аперацыі.

Італьянская прэса ўпэўненая, што распаўсюджванне ліхаманкі Эбола абавязкова адаб'ецца на турызме. Паводле ацэнак экспертаў, пацерпяць, перш за ўсё, тураператары і авіяперавозчыкі, затым уплыў адчуе на сабе рэстаранны бізнес і забаўляльная індустрыя. Праўда, галоўным чынам гэта будзе тычыцца краін, якія маюць развітыя кантакты з рэгіёнам, дзе пануе вірус. Напрыклад, 16 кастрычніка на амерыканскіх біржах на 460 пунктаў упалі акцыі авіякампаній. Аднак наўрад ці нам нешта кажа назва «Delta» (так называецца авіякампанія — адна з ахвяр біржавой панікі).

Як прагназуе выданне «Insider», «здаровы сэнс падказвае, што пры негатыўным сцэнары развіцця падзей хтосьці будзе вымушаны «выйсці з гульні», а ў выпадку з актыўнымі інвестарамі, відавочна, што на рынку авіяцыі і турызму застануцца толькі даволі буйныя брэнды».

**Італьянская прэса ўпэўненая, што распаўсюджванне ліхаманкі Эбола абавязкова адаб'ецца на турызме. Паводле ацэнак экспертаў, пацерпяць, перш за ўсё, тураператары і авіяперавозчыкі, затым уплыў адчуе на сабе рэстаранны бізнес і забаўляльная індустрыя**

Можна прагназаваць, што вядучыя сусветныя рэсурсныя фонды нейкі час будуць надаваць увагу Афрыцы за кошт іншых рэгіёнаў. Прынамсі, на ўкраінскіх інтэрнэт-форумах некаторыя тлумачаць менавіта разгулам Эболы асцярожнасць МВФ наконт пытання выдачы чарговага траншу крэдыту Украіне. Важна падкрэсліць, што МВФ, на думку шмат каго, нясе наўпроставую адказнасць за выбух вірусу. 30 гадоў таму ў С'ера-Леоне па рэцэптах Фонду прайшла структурная рэформа. На практыцы гэта прывяло да замарожвання заробкаў і росту коштаў. Жыхары гарадоў кампенсавалі недахоп сродкаў пераходам на вегетарыянскае меню, што спрыяла дэфіцыту пратэіну і дапамагло ўсялякім хваробам лягчэй пранікаць у арганізм. Таксама абарыгены пачалі ўжываць мяса лясных жывёл, якія таксама хварэюць на вірус.

Дадатковым фактарам распаўсюду хваробы стаў заняпад медычнай публічнай службы — следства выканання інструкцый МВФ пра прыватызацыю медыцыны. Нішу дзяржаўнай медыцыны хутка заняла традыцыйная, аднак сродкаў барацьбы з Эболай у яе, натуральна, няма. Затое адсутнасць медпунктаў на месцах прывяла да татальнай непісьменнасці насельніцтва ў пытаннях эпідэмій і іх прафілактыкі, што спрыяла распаўсюду самых неверагодных плётак пра вірус і метады барацьбы з імі. У Манровіі (сталіца Ліберыі) мелі месца забойствы людзей, якім натоўп па незразумелых прыкметах паставіў дыягназ — ліхаманка Эбола. Адным словам, як лічаць некаторыя ўкраінскія аглядальнікі, з-за моцнай крытыкі на свой адрас МВФ будзе вымушаны спрабаваць нейк рэабілітавацца, накіроўваючы рэсурсы менавіта ў Афрыку.

Цікава, што, паводле статыстыкі, страты краін — ахвяр эпідэміі не такія ўжо і вялікія. Месяц таму Сусветны банк апублікаваў некалькі дакументаў, прысвечаных аналізу эканамічных наступстваў эпідэміі. У 2014 годзе ўспышка ліхаманкі абыдзецца Гвінеі ў $130 мільёнаў (2,1% ВУП), Ліберыі — у $ 66 мільёнаў (3,4% ВУП), С'ера-Леонэ — у $ 163 мільёнаў (3,3% ВУП). Агулам гэтыя дзяржавы недалічацца $ 359 мільёнаў. Для параўнання, у суседняй Украіне ў гэтым годзе з-за вайны і палітычнай нестабільнасці ВУП прасеў на 8 працэнтаў, аднак сітуацыю там нельга назваць катастрафічнай.

Таму, хутчэй, мае месца своеасаблівы псіхалагічны ўплыў на эканамічных акцёраў. Як кажа адзін з чыноўнікаў Сусветнага банку, «вынікі аналізу адназначна сведчаць пра тое, што чым хутчэй мы прымем належныя меры, накіраваныя на стрымліванне эпідэміі, пераадоленне страху і зніжэнне нявызначанасці, тым хутчэй мы зможам абмежаваць уздзеянне Эболы на эканоміку».

У гэтым плане можна браць прыклад з іспанцаў. Навіны пра тое, што ў кагосьці быццам знайшлі Эболу, выклікалі не жах, а бум смеху. Іспанскія сатырыкі толькі і робяць, што стрыгуць купоны, эксплуатуючы тэму эпідэміі. Напрыклад, святкаваць Хэлоўін ў гэтым годзе прапануецца ў касцюмах санітараў эпідэміялагічнай службы. Гэта дакладна напужае.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Джоан Ламонт



Лідар шатландскай секцыі брытанскай партыі лейбарыстаў падала ў адстаўку, абвінаваціўшы кіраўніцтва партыі і яе старшыню ў тым, што яны трымаюць Шатландыю за шасцёрку Лондану. Скандалу папярэднічала рэзананснае інтэрв'ю Ламонт адной з шатландскіх газет, у якім яна паведаміла, што Шатландыя пасля нядаўняга рэферэндуму аб незалежнасці стала абсалютна іншай, чаго ўпарта не жадаюць прызнаваць «дыназаўры ў Лондане». Такая эмацыйная рэакцыя ў сваю чаргу была выкліканая рашэннем Эда Мілібэнда, які прызначыў галоўнага сакратара шатландскіх лейбарыстаў без кансультацыі з імі. На думку некаторых палітолагаў, інцыдэнт з Ламонт здольны выклікаць крызіс унутры шатландскіх лейбарыстаў, што можа паўплываць на шансы партыі Мілібэнда на парламенцкіх выбарах увесну. Шатландыя прадстаўленая ў ніжняй палаце парламенту Вялікабрытаніі даволі вялікай групай (41 дэпутат). Між тым, канфрантацыяй унутры лейбарыстаў ахвотна скарысталіся іх канкурэнты з Партыі шатландскіх нацыяналістаў (SNP), якая спрабуе таксама пазіцыянаваць сябе як левацэнтрысцкая палітычная сіла. Яны заклікалі ўсіх шатландскіх лейбарыстаў запісвацца ў SNP.

### Іраклій Гарыбашвілі



Прэм'ер Грузіі звярнуўся са спецыяльным заклікам да абхазскага і асецінскага народаў. Фактычна гэта першая спроба новага ўраду Грузіі сістэмна сфармаваць погляд на праблему сепаратысцкіх дзяржаў, якія па сутнасці ёсць сатэлітамі Масквы. Галоўная ідэя паслання Гарыбашвілі заключаецца ў тым, каб давесці, што краіна змагла цалкам пазбавіцца ад спадчыны Міхаіла Саакашвілі, якога прэм'ер абвінавачвае ў аўтарытарызме, карупцыі і г.д. Па яго словах, у новай дэмакратычнай Грузіі абхазам і асецінам будзе вельмі ўтульна. У дадатак новы рэжым у Тбілісі гатовы надаць ім шырокую аўтаномію. Прамова прэм'ера, натуральна, не спадабалася паплечнікам Саакашвілі, якія аб'яднаныя ў партыю Нацыянальны рух. Прадстаўнікі руху кажуць, што план Гарыбашвілі абстрактны, і ў дадатак толькі спрыяе акупацыі, паколькі даводзіць слабасць Тбілісі. Тым не менш, большасць грузінскіх назіральнікаў сыходзяцца ў меркаванні, што сёння Тбілісі прапануе рэгіёнам значна больш незалежнасці і магчымасцяў захавання самабытнасці ў складзе Грузіі, чым робіць гэта Масква. Апошняя, прызнаўшы дэ-факта рэспублікі суверэннымі дзяржавамі, сваімі дзеяннямі хутчэй абмяжоўвае гэту суверэннасць. У Цхінвалі і Сухумі пасланне Гарыбашвілі праігнаравалі, аднак некаторыя лічаць, што абхазы і асеціны могуць зацікавіцца прапанаваў шырокай аўтаноміі ў выпадку пачатку працэсу еўраінтэграцыі Грузіі.

### Клаус Ёханэс



Умэра румынскага гораду Сібіу някепскія шансы на прэзідэнцкіх выбарах 2 лістапада. Паводле апытанняў, ён здольны набраць 28 працэнтаў і выйсці ў другі тур, дзе яго праціўнікам стане цяперашні прэм'ер Віктар Понта. Калі Ёханэс дамовіцца з іншымі кандыдатамі, якія не пройдуць у другі тур, яго шансы будуць даволі высокімі. Фішка ў тым, што Клаус Ёханэс — румын нямецкага паходжання, які актыўна піярыць свае этнічныя карані. Такая рыторыка вельмі пужае Парыж, паколькі ў Францыі гістарычна моцныя сувязі з Румыніяй. Аднак не менш насцярогі выклікаюць пранямецкія пасажы Ёханэса ў Берліне. З аднаго боку, чакаецца, што румынска-нямецкія сувязі ў выпадку перамогі Ёханэса будуць больш моцнымі. З другога — шмат хто бачыць у ім папуліста. Так, Клаус Ёханэс абяцае, што асабіста здолее прыцягнуць у краіну нямецкі капітал, як гэта зрабіў у Сібіу, аднак на самай справе гэта толькі голыя абяцанкі, што нясе вялікія рызыкі для рэнаме ФРГ у балканскім рэгіёне.

# «Малады ліцвін з тэмпераментам вясковага грамадзяніна...»

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**У гэтым нарысе гаворка пойдзе не пра знакамітага Станіслава Богуш-Сестранцэвіча — асветніка, гісторыка, славіста, пісьменніка і першага мітрапаліта ўсіх рымска-каталіцкіх цэркваў Расіі, і да таго ж яшчэ і дзядзькі Дуніна-Марцінкевіча, а пра іншага. Таксама Станіслава Богуш-Сестранцэвіча — мастака, вартага ўвагі і памяці, тым больш, што 11 лістапада 2014 года спаўняецца 145 гадоў з дня яго нараджэння.**



## У вандроўку па жыцці

Біяграфічных звестак пра мастака захавалася вобмаль. Нарадзіўся Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч у 1869 годзе ў збяднелай шляхецкай сям'і, у Вільні, на Зарэччы. У месцы, якое поўнілася заезджымі дварамі, таннымі корчмамі, лаўкамі рамеснікаў ды пральнямі, і якое сёння мы ведаем як «Незалежную Рэспубліку Ужупіс».

Першымі жыццёвымі крокамі юнака да асветы была віленская рэальная вучэльня, а следам за ёй — рысавальная школа Трутнева. Далей шлях пралёг па добра ўбітай многімі землякамі сцежцы — акурат у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. З выбарам класа Стась доўга не вагаўся. Шляхецкая жарсць і спадчынная любоў да коней, падмацаваная ўражаннямі бачаных у дзяцінстве «конскіх базараў» з абавязковымі і заўжды існымі цыганамі, што было часткай «эстэтычнага выхавання дзіцяці», зрабілі сваю справу.

Яшчэ ў студэнцкія гады за свайго «Шэрага ў яблыках» ён атрымаў першую акадэмічную ўзнагароду і зрабіўся сталым удзельнікам выставаў Пецярбургскага таварыства мастакоў.

Батальны клас жывапісу прафесара Багдана Паўлавіча Вілевальдэ (1818–1903) лічыўся адным з лепшых у Акадэміі. Як згадваюць сучаснікі, яго «паважалі за незвычайную дабрыню і шчодрасць: ён са сваіх збераджэнняў выдаваў дапамогу многім вучням класа і клапаціўся пра іх».

Лічыцца, што Багдан Вілевальдэ, мастак з саксонскімі каранямі, пісаў кідкія палотны, сюжэты для якіх запазычваў у гісторыях і легендах вайны 1812 года, а таксама ў аповесцях пра замежныя экспедыцыі рускага войска, што ён стварыў расійскі батальны жанр і батальны жывапіс увогуле.

Клас Вілевальдэ даваў даволі грунтоўную і ўсебаковую падрыхтоўку. Але ў ім не існавала міфалагічных і біблейскіх сюжэтаў. Баталісты абапіраліся выключна на расійскую гісторыю. Дзеючыя асобы іх палотнаў, што распавядалі пра гераічныя замежныя паходы імперскага войска, — дзеці і старыя, сяляне і мяшчане, не кажучы ўжо пра купцоў і салдат — прадстаўлялі спрэс «рускі свет».

Але памяць дзяцінства, праведзенага на вулках размаітагалосага віленскага Зарэчча, сцвярджала Станіславу штосьці іншае, калі не супрацьлеглае. Падчас навучання ў Акадэміі юнак хварэў на сухоты. «Станіслаў вучыўся на выдатна, але чамусьці з трэцяга курса, у 1892 годзе, быў выключаны «за непаспяховасць»... Калі ўжо сабраўся было ехаць у Вільню, у яго папрасілі прабачэння і аднавілі ў правах студэнта», — піша Барыс Крэпак.

Пасля гэткай абразы Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч яшчэ пэўны час працягваў навучэнне, і нават 11 лістапада 1893 года атрымаў малы срэбраны медаль. Але неўзабаве сам «не пажадаў працягваць навучэнне ў Імператарскай акадэміі мастацтваў». Сапраўдная матывацыя гэтага ўчынку дасюль не вядомая.

## Замежны след

Вяртанне ў Вільню, дзе Станіславу быў знаёмы кожны закутак, сталася шчымліва-радасным, але і самотна-кароткім аднначасова. Тут Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч мусіў быў выжываць, клапаціцца пра «хлеб надзённы». Шукаць шляхі далейшай навукі.

Удасканальваць свой рэалістычны досвед Станіслаў накіраваўся ў Парыж, у прыватную Акадэмію Жуліяна (Academia Julian), што існавала ад 1868 года. Асновай тагачаснага навучэння ў Парыжы былі штудыі аголенай натуры, і таму ў дзяржаўную школу вытанчаных мастацтваў (École des Beaux-Arts) жанчын не прымалі. Акадэмія Жуліяна такой дыскрымінацыі не рабіла. Слухачы маглі нават спаборнічаць за дзяржаўную стажыроўку — «Рымскую прэмію». Неўзабаве гэта акадэмія стала часткай Нацыянальнай праграмы выяўленчага мастацтва — «Penninghen». Менавіта ў Акадэміі Жуліяна Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч адточваў сваё майстэрства.

Наступным жыццёвым прыпынкам пасля Парыжу стаў Мюнхен. Тут Станіслаў працягваў сваё навучэнне ў майстэрні мастака-рэаліста Юзэфа Брандта (1841–1915), з якім меў не толькі прафесійныя, але і сваяцкія стасункі, бо хоць і каротка, але быў пабраны шлюбам з адной з яго дачок. Канькам прафесара мюнхенскай акадэміі, даруйце за каламбур, былі коні, а таксама гістарычны, батальны і анімалістычны жывапіс, — тое, да чаго Станіслаў быў схільны з дзяцінства. Сябра мюнхенскага кунстферайна («kunst-verein» — грамадская мастацкая супольнасць дапамогі «некамерцыйным» мастакам), ён, натуральна, браў удзел і ў культурным жыцці горада.

## Вяртанне на радзіму

Утаймоўваюча-аптымістычным стала вяртанне Станіслава ў Вільню ў 1897 годзе. Тут спакваля адраджалася мастацкае жыццё, раней прыгнобленае рэпрэсіямі Мураўёва. Мастак прыняў удзел у некалькіх выставах: вясновай віленскай выставе «тэракотаў і гіпсаў» былога вучня школы малюнка — Баляслава Балзукевіча, якая прайшла ў будынку цырка на Лукішках. А ўвосень была арганізавана і маштабная выстава са 150 твораў.

Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч браў удзел у падрыхтоўцы да святкавання юбілею Адама Міцкевіча. Працаваў у грамадскім камітэце пабудовы помніка і, апрача конкурсных эскізаў да яго, па прапанове рэдактара Чэслава Янкоўскага, увасабляў постаці сяброў і паплечнікаў паэта: Зана, Адынца, Чачота. У тым жа 1897 годзе ў складзе мюнхенскай групы «Sezession» ён са сваёй работай "3 поля" удзельнічаў у міжнароднай выставе, што не абмінае ў сваім агглядзе «Tygodnik ilustrowany». А на першым конкурсе тэатральнай фатаграфіі ў Варшаве Станіслаў нават заняў 4-е месца. Не прапусціў ён і другую віленскую выставу ў жніўні 1899 года.

Крыху пазней крытык Адольф Навачынскі ў артыкуле «Сучасныя мюнхенцы. Карціны і людзі» напіша пра Станіслава Богуш-Сестранцевіча: «Малады ліцвін, з тэмпераментам вясковага грамадзяніна і па «прафесіі» сваё мастацтва беспадстаўна лічыць рэччу другаснай, а сябе лічыць толькі дылетантам. Гэта вельмі шчыры і працавіты дылетант, якога чакае вялікая будучыня ў параўнанні са шматлікімі калегамі... Богуш-Сестранцэвіч... арыгінальны ў сваіх віленскіх завулках, забудовах, падворках, незалежна ад таго, ці адлюстроўвае іх алейнай фарбай, ці пяром. У малюнках пяром заключаецца яго галоўная моц, тэмперамент і стыль».

Несупынны карагод, што кружляў перад вачыма мастака: гламурна-недасяжныя мясцовага гатунку красуні, не надта абцяжараныя маральнасцю, перастарэлая гімназічная дама, якая ў лепшым выпадку з зайздрасцю ставіцца да сваіх бэйбусаў-гадаванцаў, значныя, заўжды пахмурна-заклапочаныя чыноўнікі, бравыя вайскоўцы, самазадаволеныя фацэт-мажоры, картачныя гульцы, тусовачна-багемныя балбатуны,



Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. На крэсах. 1898 г.



Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. Фрагмент малюнка

плеткары і яшчэ, і яшчэ — усё гэта можна ўбачыць у яго творах. Эскізна-лёгка ўвасабляе ён разнастайныя псіхалагічныя і сацыяльныя тыпы ў акварэльных працах «Віленскае грамадства», «Менскае грамадства», «Кветкі вялікага горада».

Не дзіва, што «востра-крытычны позірк мастака» імпанаваў нават савецкай уладзе, якая з гонарам паказала яго ў Маскве у 1940 годзе.

## Як яно і было

Паводле ладу свайго жыцця Богуш-Сестранцэвіч быў тыповым прадстаўніком багемы, у тым сэнсе, што асабістую свабоду з ганарарнымі заробкамі ставіў вышэй за казённую, штодзённую прысутнасць. Не зважаючы на тое, што грамадскія варункі ў краі ніколі не спрыялі развіццю і буянню мастацтваў, спадчыннік ВКЛ, ён быў мастаком краёвай свядомасці і, натуральна, не мог абмінуць тутэйшых тэмаў, тым больш што часта выязджаў у Мінск і іншыя мястэчкі, дзе цікавіўся і фіксаваў жыццё сялян і дробнай, згалелай шляхты.

«...З галавой кідаецца ў «часопісную» творчасць... пасля 1906 года, супрацоўнічае і з першай беларускай легальнай перыядычнай газетай «Наша ніва». Няма сумневу, што ён знаёмы і з братамі Луцкевічамі, і з Алаізай Пашкевіч (Цёткай), і з маладымі Янкам Купалам, Вацлавам Ластоўскім, Ядвігіным Ш.», — піша крытык Барыс Крэпак. Мусіць, так і было, але дакументальна гэта не пацверджана.

Падставай жа для гэтай патрыятычна-катэгарычнай заявы, відаць, сталася праца мастака над ілюстрацыямі адной з першых беларускіх кніжак — апавяданнем Элізы Ажэшкі «Гедалі», якое выпусціла выдавецтва «Наша Ніва» ды не разгаданы псеўданім графіка беларускіх выданняў пачатка XX стагоддзя — «Яніслаў Валакіта».

Светлай памяці Генадзь Кахаоўскі лічыў, што за гэтым псеўданімам хаваўся Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. Надзея Усава тое абвяргае, грунтуючыся на тым, што подпіс, пададзены «беларускай лацінкай, уласцівай для мастакоў інсітнага, непрафесійнага мастацтва, але з усведамленнем». Роля ілюстратара, які схаваўся пад гэтым «празрыстым» псеўданімам, больш пасуе паэту і драматургу Альберту Паўловічу (1875–1951), лічыць яна.

Кропку ў палеміцы магчыва будзе паставіць, знайшоўшы і вывучыўшы архівы беларускіх выдавецтваў Вільні (перадусім «Беларускай хаткі»).

## Майстра на ўсе рукі

Лёгкі на пад'ём, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч ад сур'ёзных псіхалагічных партрэтаў ці мадэрнова трактаваных кампазіцыяў (такіх, як «Гейша», 1902) або глыбока рэалістычных («Прачкі») твораў хутка пераходзіў да банальна-камерцыйных рэчаў. «Рабіў пампезныя, замоўныя партрэты са спісанымі з Ван Дэйка аголенымі рукамі», заўважае Паклеўскі. Ад вытанчана-іранічных станкавых, а часам і гратэскна-сатырычных твораў пераходзіў да ілюстрацыйнай, часопісна-газетнай графікі. Пісаў шчымліва-лірычныя краявіды і побытавыя кампазіцыі. Стала і прафесійна займаўся фатаграфіяй.

Кажуць, што ў часы жорсткага безграшоўя Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч змушаны быў кінуцца ў матрыманіяльную тэматыку, што карысталася гарачым попытам не толькі тых, хто рушыў да шлюбу, але і рознага кшталту гульцоў і аматараў моцных напояў і прыгодаў. Як і большасць мастакоў, Станіслаў займаўся педагагічнай працай, а таксама быў сузаснавальнікам і рэжысёрам тэатра-кабарэ «Ach».

Тэатр-кабарэ ў Вільні з'явіўся раней, чым у Варшаве ды Львове. Арганізатарамі і заснавальнікамі яго сталі мастак Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, лекар Міхаіл Мінкевіч і архітэктар Тадэвуш Раствароўскі. Прэм'ера адбылася 29 студзеня 1908 года ў зале на вуліцы Міцкевіча.

У пяцігадзінным відовішчы, апрача самадзейных артыстаў, з сем'яў арэндадаўцаў, сярод якіх сустракаліся прадстаўнікі з вышэйшага свету, бралі ўдзел і прафесійныя акцёры. Пазней бацькі-заснавальнікі запрасілі і выканаўцаў з Варшавы ды Пецярбургу — Горскага, Сабаньску, Барткевіча.

Праграма кабарэ ўлучала ў сябе данс-шоў (упершыню публічна танчылі вальс, а таксама яшчэ фандага, мазурку, чардаш і паланез), аднаактную п'есу, сатырычныя дыялогі, як кажуць, на «злобу дня». Выступы меркавалася даваць у памяшканні віленскай мэрыі, па аднаму на год, кшталту масленічных карнавалаў. Але па патрабаванні гледачоў ды канкурэнцыі з тэатрамі-вар'етэ «Szuman» у Батанічным садзе і створаным у 1910 годзе яшчэ адным кабарэ «Rcvucta Kukuryku» планы змянілі.

Абавязкам Богуш-Сестранцэвіча была падрыхтоўка і выданне праграмак. Вокладку зазвычай упрыгожвала выява П'еро з гітарай, але гэта быў хутчэй сімвал-камертон дзеі.

Героі карнавала-відовішча — містычныя Белая і Чорная дамы, чарнакніжнік, гістарычныя асобы розных эпох (іспанскі кароль XVII ст., графы і графіні, князь Віктар Святаполк-Мірскі, «дзікая краіна» з-над Віліі з яе чыноўніцтвам, ліберальнымі і патрыятычна-манархічнымі журналістамі, тагачаснымі месцічамі). Калі ж дадаць у гэты шэраг пачвару «з дзвюма галовамі, дзвюма рукамі, адным тулавам і трыма нагамі» і Караля-кавуна, ролю якога выконваў сам пан Станіслаў, — кола замкнецца.

Адзін з віленскіх крытыкаў пісаў, што ў дзень выступу трупы сцэна пашыралася да памераў усёй Вільні. Крыніцы спазнання віленскіх кабарэ сціплыя, адзначае супрацоўніца Цэнтра паланістыкі віленскага ўніверсітэта Ірэна Федаровіч. Апрача «Кур'ера Віленскага», гэта папулярныя ў тыя гады «аднадзёнкі», досвед супрацы з якімі пан Станіслаў меў з мюнхенскіх часоў — беларускія выданні «Кнут», «Крапіва», «Саха», якімі апекаваўся Францішак Аляхновіч.

Спектаклі ў большасці падаваліся «mowiono z proprowincji». Аглядальнік Ф. Грыневіч пісаў, нібыта кожны рух, кожнае слова паказвала пазнавальны віленскі выпадак і передавала трапную нацыянальную і асабовую характарыстыку.

## Ад'езд

У кастрычніку 1919 года, пасля амаль стогадовай летаргіі, зноў адчыніўся Віленскі ўніверсітэт. Першы дэкан і рупліўца мастацкага факультэта, прафесар Фердынанд Рушчыц падабраў лепшыя выкладчыцкія кадры. Станіславу Богуш-Сестранцэвічу ён даверыў кіраванне майстэрняй натуры і даў беспрытульнаму мастаку пакойчык пры мурах факультэта.

Няшчымна-халоднае жыццё патроху наладжвалася, але пагроза чырвонай акупацыі змусіла да бежанства практычна ўвесь першы склад факультэта. Хворы і самотны мастак апынуўся ў Варшаве. Але апошні прытулак знайшоў у горадзе, у якім нарадзіўся.

Памёр Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч 24 траўня 1927 года. Хаўтурнымі клопатамі па ім, з-за адсутнасці нашчадкаў, займалася былая жонка — Крысціна Бранд-Тышкевіч. Пахаваны ён адпаведна тэстаманту 28 траўня, у Вільні, на зруйнаваных у 1950-я гады могілках.

Жалобную імшу па Станіславу Богуш-Сестранцэвічу справілі ў строга-класіцыстычнай (на манер рымскіх храмаў) евангелісцка-рэфарматарскай царкве, веліч якой вартавалі скульптурныя кампазіцыі Карла Ельскага. Пабудаваная яшчэ ў 1830–1831 гадах па праекту Карла Падчашынскага як лютэранская, царква ад самага пачатку задавальняла рэлігійныя патрэбы і другой рэфарматарскай плыні — кальвіністкай, да якой належаў мастак. Месцілася гэтая святыня на былой Завальнай (зараз Піліма) вуліцы (у паваенныя часы ў гэтым будынку месціўся кінатэатр «Хроніка»).

У 1956 годзе пашкоджаны вайной рэфарматарскія могілкі канчаткова зруйнавалі, на іх месцы пасадзілі парк. Бліжэй да нашых часоў на тым месцы вырас Палац Шлюбу.

## Пытанне спадчыны

Жанрыст, які змалку прызвычаены быў пільна ставіцца да «дробязяў жыцця» з іх імкліва-непаўторным рухам, мастак, які занатоўваў гэтае жыццё алоўкам і пяром, фіксаваў яго на фотапласцінах, Богуш-Сестранцэвіч нічога не пакінуў на ўспамін спадчыннікам-беларусам. Яго творы ў зборах Вільні, Варшавы, Кракава, Мюнхена, Лодзі ў музеі Плоцкага ваяводства, але не ў Беларусі...

Будзем спадзявацца, што калі-небудзь хтосьці з беларускіх патрыётаў зоймецца арганізацыяй яго выставы ў Мінску.

Памёр Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч 24 траўня 1927 года. Хаўтурнымі клопатамі па ім, з-за адсутнасці нашчадкаў, займалася былая жонка — Крысціна Бранд-Тышкевіч. Пахаваны ён адпаведна тэстаманту 28 траўня, у Вільні, на зруйнаваных у 1950-я гады могілках



Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. Групавы дзіцячы партрэт. 1906 г.



Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. Кірмашны фліРт. 1907 г.



Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. Віленскі завулак — падводы



Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. Продаж дзічыны ў Вільні. 1903 г.


Мікалай Какаулін. Крэсла. 2012 г.


Ігар Балаханаў. «Трон браканьера». Дрэва, метал, 2012 г.

# Крэсла як матэрыяльны аб'ект і мастацкі вобраз

**31 кастрычніка ў галерэі «Універсітэт культуры» адкрыўся выставачны праекта «Пастулат–2014», прысвечаны крэслу як матэрыяльнаму аб'екту і мастацкаму вобразу ў розных жанрах выяўленчага мастацтва.**

На выставе прадстаўлены творы вядомых беларускіх аўтараў і працы маладых дызайнераў, студэнтаў беларускіх ВНУ. Творчая супольнасць прадстаўляе сваё бачанне крэсла ў рэальным матэрыяле, прататыпах і макетах, інсталяцыях і арт-аб'ектах, жывапісных палотнах, графіцы і фатаграфіі.

Адпраўной кропкай для праекта «Пастулат» стаў 2012 год, калі на некалькіх выставачных пляцоўках Мінска, у НВЦ «Белэкспа», галерэі «Універсітэт культуры» і Музеі гісторыі горада Мінска адбыліся выставы, у якіх прынялі ўдзел больш за 110 мастакоў, скульптараў, фатографаў і дызайнераў з Беларусі, Расіі і Польшчы. Гэта была знакавая і беспрэцэдэнтная падзея для беларускага дызайну, якая дазволіла пачаць збор калекцыі дызайнерскіх аб'ектаў і знайшла свой працяг на еўрапейскіх фестывалях дызайну.

На працягу 2013 года калекцыя «Пастулат» была паказана на Тыдні дызайну ў Вільні, на WAWA Design Festival у Варшаве, на Design Night Festival у Таліне, а таксама ў Карціннай галерэі Вашчанкі ў Гомелі і на выставе «Avant-gARTe». Ад квадрата да аб'екта» ў Мінску. Быў выдадзены каталог выставы, фірмовы каляндар, а таксама створаны электронны каталог: http://postoolat.unid.by/.

Сёння праект робіць свой наступны крок. Выстава набывае біенальны фармат і прадстаўляе новыя работы беларускіх дызайнераў, мастакоў, фатографаў натхнёных такім штодзённым, але такім неад'емным і прыцягальным аб'ектам для чалавека, як крэсла.


Мікалай Какаулін. Крэсла. 2012 г.

У першую чаргу, крэсла з'яўляецца аб'ектам дызайну і разглядаецца ў непарыўнай сувязі з функцыянальнасцю і тэхналагічнасцю. У сваім традыцыйным выглядзе яно знаходзіць сабе ў хатнім інтэр'еры, у тэатры, канцэртнай залі, у закусачнай і рэстаране, у офісе і ў медыцынскім кабінеце. Дзякуючы ўяўнай прастаце і багаццю канатацыі яно з'яўляецца прывабным не толькі для дызайнераў, але і для мастакоў у самым шырокім сэнсе слова.

Многія аўтары звяртаюцца да тэмы крэсла. Дастаткова прыгадаць мастакоў пачатку XX стагоддзя Маціса і Ван Гога, Эндзі Уорхала і яго «Электрычнае крэсла», крэсла Гюнтэра Юкера, «Адно і тры крэсла» канцэптуаліста Джозэфа Кошута. Тэма крэсла як у дызайне, так і ў выяўленчым мастацтве здаецца невычэрпнай і дае далейшае развіццё праекту «Пастулат» у 2014 годзе.

Выстава будзе доўжыцца да 22 лістапада 2014 года ў галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая плошча, 1, Палац Рэспублікі). Час працы галерэі: 11.00 — 19.00. Выходныя: нядзеля і панядзелак. Уваход вольны.

# «Стары Ольса»: 15 гадоў на сцэне

Сяргей ПУЛЬША

**Гурту «Стары Ольса» ўжо 15 гадоў. Адзначацца гэтая падзея будзе 16 лістапада вялікім канцэртам. А пакуль музыкі падвялі вынікі сваёй дзейнасці для журналістаў у звыклым месцы — страўні «Камяніца».**


«Па пратаколу трэба»: Зміцер Сасноўскі напачатку прэзентацыі быў нібы школяр ля дошкі

Што такое 15 гадоў для гурта сярэднявечнай музыкі? «Гэта цяжка, — адзначае лідар гурта Сасноўскі. — За 15 гадоў, падаецца, мы павінны былі пасталець, аднак дурасць як была, так і не прайшла. Мы не становімся больш сталымі, адказнымі, паважлівымі».

Тым не менш, па ягоных словах, «Стары Ольса» зараз усё больш і больш ператвараецца ў нейкую «навуковую лабараторыю». Музыкі вядуць пошукі ў архівах, адкопваюць нейкія старажытныя музычныя творы, выкалупваюць тэксты і ноты, і з гэтага атрымліваецца сапраўды аўтэнтычная сярэднявечная і старажытная музыка.

Апошнім альбомам гурта застаецца прэзентаваны напрыканцы мінулага года дыск барочнай палацава-камернай музыкі «Santa Maria». Музыкі вельмі задаволеныя гэтай працай. «Па гучанні гэта самы якасны альбом. Я нядаўна праслухоўваў старыя запісы «Ольсы», дык параўнаць першыя запісы і «Santa Maria» — гэта неба і зямля», — адзначыў Ілля Кублiцкі. І дадаў, што гурту «не хапае якаснага Live-альбому», бо жывое выкананне нічым не заменіш. «Існуюць такія думкі ад нашых фанатаў, што на канцэрце мы гучым лепш, чым у альбоме», — распавёў ён.

І гэта ёсць некаторай праблемай. Можна было б зрабіць, напрыклад, якасную «Анталогію «Старога Ольсы» да 15-годдзя (хоць музыкі і «абяцалі падумаць над ідэяй да 20-годдзя»). Але гэта для музыкаў не так цікава, і, канешне, гэта страта часу. Дый сэнсу няма, лічыць Сасноўскі. «Нашыя продкі напісалі столькі цікавай музыкі, што няма сэнсу вяртацца да старога, — лічыць Зміцер Сасноўскі. — З «Полацкага сшытку», з 71 кампазіцыі выкананая 21, астатнія не іграныя. Прычым «Полацкі сшытак» дазваляе адну і тую ж кампазіцыю выконваць па-рознаму розным музыкам. І калі б мы вярнуліся да гэтых кампазіцый, мы б гралі іх усё роўна нанова, зусім па-іншаму».


«Сярэднявечная частка» «Старога Ольсы»: дударка Марыя Шарый, бубнач-дудар Андрэй Апановіч і проста бубнач Сяргей Тапчэўскі

«А наконт «Santa Maria» — усё вельмі проста. Гэты альбом мы ўпершыню запісалі самі. Самі скінуліся грашыма, не былі абавязаныя ніводнаму прадзюсару, нам ніхто не казаў: «Вось гэта гучыць добра, а гэта кепска, гэта змяніце, гэта перапішыце», што было ўсе гады да «Santa Maria». Мы самі ўзялі свае пенёндзы, самі ўклалі, за свае грошы запісалі і выдалі. І гэта першы альбом, які сведчыць пра нашы мастацкія густы, а не пра густы тых, хто ўкладаў грошы ў ранейшыя альбомы», — тлумачыць Сасноўскі.

«У нас зараз багата песняў, новых песняў, якія сабраныя ў праграму і прыблізна называюцца «Застольныя песні беларускага рыцарства» — тое, што спявалася за сталом. Аднак ёсць дзве практыкі да запісу альбома. Першая — ты садзішся ў студыю і запісваеш альбом, а потым пачынаеш граць песні на канцэртах. І другая, калі ты граеш гэта спачатку на канцэртах трыццаці, а потым садзішся ў студыю і пішаш альбом. На нашу думку, другая практыка лепшая. Таму што ты запішаш адно, а па хадзе канцэртаў усё змяняецца: усталёўваюцца, прыціраюцца інструменты, аранжыроўкі, ідэі. Таму мы тое, што зараз разабралі, наступны сезон «адкатаем» на канцэртах, і зімою 2015–2016 гадоў запішам», — адзначае Сасноўскі.

Такім чынам, «застольных песняў» нам у выглядзе кампакт-дыску чакаць яшчэ год. Тым большая нагода прыйсці на канцэрт «Старога Ольсы», дзе гэтыя песні якраз патрапяць пад такую «абкатку».

Карацей, наперадзе ў «Старога Ольсы» вельмі багата працы і задумаў. Але галоўныя рэчы і новыя песні можна будзе пабачыць і пачуць на вялікім сольным юбілейным канцэрце, які пройдзе 16 лістапада ў ДК МАЗ а 19-й гадзіне. «Гэта будзе вялікі канцэрт — лепшыя кампазіцыі з усіх альбомаў. Будзе і песенная, і танцавальная, і камерная музыка, дзе будзе саліраваць рэнесансная лютня. Зразумела і безумоўна, будзе шмат новых песень, якія яшчэ не запісаныя», — паведаміў Ілля Кублiцкі.

А калі ўжо да 15-годдзя раздзяўбайныя музыкі са «Старога Ольсы» не выдалі новы альбом, то трэба ж нешта фанам прапанаваць? І ўпершыню за ўсю гісторыю гурта былі выпушчаныя фірмовыя майкі «Старога Ольсы» з лагатыпам каманды і вокладкай другога альбому як эмблемай. Іх таксама можна будзе набыць на канцэрце.

Пасля імпрэзы гурт выпраўляецца ў падарожжа з юбілейнымі канцэртамі па рэгіёнах. Ужо 23 лістапада іх чакае Гродна, 13 снежня — Гомель. А там — сачыце за афішамі ў сваіх гарадах.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1463

Падпісана да друку 31. 10.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.